
Майстэрня габелену →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Царква ў Слохах-Аннапольскіх →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3042) Год LIX | Беласток, 31 жніўня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# XV Трыялог — Беларускі міф

**«Беларускі міф» — такі лозунг суправаджаў сёлетні, двухдзённы «Трыялог» у Крынках. Яго плакатнай адметнай рысай у гэтым годзе стаў жаночы твар з вачыма заслоненымі бел-чырвона-белай стужкай. Гэтак жа як і на папярэднім «Трыялогу», які адбыўся ў першы раз пасля смерці яго заснавальніка Сакрата Яновіча і які паклаў пачатак працягу ў новай формуле ягоных «Беларускіх трыялогаў», галоўнай падзеяй былі дэбаты па беларускай культуры, літаратуры і палітыцы.**




У запрашэнні на пятнаццаты «Трыялог» (22-23 жніўня) яго арганізатары з Фонду «Віла Сакрата» паставілі пытанне: «Дзе ёсць гэтая міфічная Беларусь? Кожны аб ёй гаворыць, але сапраўды не ведае шмат пра яе гісторыю, барацьбу за незалежнасць, паўсядзённае жыццё... Усе хацелі б, каб у Беларусі адбыліся падобныя палітычныя працэсы як у Польшчы, але ці хто-небудзь у іх інвестуе? Сродкі, размеркаваныя на апазіцыю, свабодныя СМІ — «Белсат», Радыё Рацыя, у асноўным маюць сімвалічны характар і служаць толькі для супакаення сумлення дзяржаў, якія ўжо незалежныя. Беларусы, вымушаныя спраўляцца ў лукашэнкаўскім раі, якія прыязджаюць у Польшчу на пакупкі, добра ведаюць, якая цана свабоды, колькі плацілі б за электраэнергію. Людзі заўсёды ішлі туды, дзе цёпла і выгадна — так было ад вякоў, так ёсць сёння. Але аўтобус Гродна — Ашан — Гродна спраўджвае мары не толькі беларусаў. Колькі мы зрабілі ў гісторыі разам? Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч, Ежы Папялушка, Тадэвуш Канвіцкі, Чэслаў Немэн, Ігнацы Карповіч з'яўляюцца лепшым прыкладам гэтага. Сёння немагчыма ўявіць сабе інтэлектуальную прастору паміж Беларуссю і Польшчай без Сакрата Яновіча. Таму разважаем пра гэта тут, у Крынках, у Віле Сакрата, таму што гэтай дыскусіі не хапае ўсім нам, як рыбе вады. Нам не хапае новага дыхання ў сумесным польска-беларускім дыскурсе, дзякуючы якому ў будучыні мы можа навучымся жыць разам. Змяняліся тутэйшыя межы, але выжыла тая самая цывілізацыя з яе культурай, культурай міфічнай Беларусі, якая надалей уплывае на спадчыну сучаснай Еўропы. Давайце ўслухаемся ў яе маўклівы крык, крык Белай Русі — Дабрарусі, Добрай зямлі добрых людзей. Яна ёсць, у нас, побач з намі, проста трэба даць ёй магчымасць сказаць самой за сябе, на сваёй уласнай мове. Чаму мы, беларусы, ведаем усё пра Польшчу і палякаў, а палякі пра нас не ведаюць амаль нічога?».

У першай дзбаце, азагалоўленай «Культура», прынялі ўдзел праф. Лявон Тарасэвіч, мастак, ініцыятар «Трыялога» ў новай формуле, культавы музыкант Лявон Вольскі і праф. Славамір Ратайскі, аўтар карцін і інсталяцый, выкладчык Акадэміі мастацтваў у Варшаве, дыпламат. Мадэратар усіх дэбат журналіст, рэпарцёр і пісьменнік Павел Смаленскі пытаўся, чаму палякі так мала ведаюць пра беларусаў і Беларусь, і сам адказаў, схільваючы да размовы:

— Палякі аб беларусах не ведаюць амаль нічога. Таму, што беларусы з'яўляюцца нашымі ціхімі братамі, не скандаляць, не відаць іх. Палякі маюць свае былыя дзеі з немцамі і габрэямі, і беларусы проста тут жывуць.

Славамір Ратайскі сцвердзіў:

— Як гэта ні парадаксальна, шчасцем Беларусі ёсць Лукашэнка, што не сыходзіць з першых палос газет. Такім чынам гавораць пра Беларусь, што яна існуе.

Даказваў, што Беларусь і беларусы палякам патрэбныя па прычыне супольнага пня, выраслага з гісторыі і магчымасці адказу на пытанне аб уласнай ідэнтычнасці і разуменні саміх сябе:

— Гэта разуменне трэба пачаць з таго, што кожны чалавек мае асабістую гісторыю.

Лявон Тарасевіч:

— У Польшчы ігнаруецца тое, што ёсць на Усходзе. У школах не даюць элементарнай інфармацыі пра Беларусь. Функцыянуе міф, што Беларусь ёсць дзесьці там, і нікому гэтых ведаў не трэба (...). Самае галоўнае, каб было навучанне аб агульнай культуры і гісторыі ў школах, не толькі на канферэнцыях (...). Праблема ў тым, што ніхто не інвестуе ў Беларусь. Гэта вялікая еўрапейская памылка. Грошы, укладзеныя ў тэлеканал «Белсат» ці Радыё Рацыя замалыя (...). На сённяшні дзень улады Польшчы і Беластока так мала інвестуюць у беларусаў, і так шмат ад беларусаў маюць.

Лявон Вольскі:

— Кожны міф пра Беларусь мае нейкія падставы, хоць часта гэтыя міфы супярэчаць адзін аднаму. Сярод расейцаў ёсць міф пра Беларусь як краіну бульбы, што ёсць тут вельмі добрыя дарогі, што тут вельмі чыста і Бацька-малайчына ўзяў усіх алігархаў за морду ды што беларусы гэта іх малодшыя браты. На захадзе Еўропы існуе стэрэатып, што тут на вуліцах хапаюць чорныя эскадроны смерці і знікаюць людзі (...). На працягу дваццаці гадоў мы прывыклі ў нашым свеце культуры, каб не прасіцца ў нашай дзяржавы грошай, бо гэта нават ганьба. Справа не толькі ў разліках, але і, напрыклад, у навязванні зялёна-чырвонай сімволікі.

Славамір Ратайскі:

— У нас ёсць агульная памяць. Наша мова гучыць для нас «паміж», так як здагадваемся сваёй культуры. Кожны з нас ставіць пытанне, што належыць нам, і што вам (...). Можа абмежаванне творчай свабоды добрае для духу. Прыгнечаны мастак крычыць гучней.

Пры нагодзе гэтай дыскусіі Лявон Тарасэвіч прапанаваў:

— Двухмоўныя назвы мясцовасцей павінны быць уведзены зверху [не шляхам цяперашніх канцылярскіх працэдур і кансультацый з грамадскасцю — М. Х.].

Славамір Ратайскі запярэчыў:

— Ды гэта легітымізацыя прэсінгу ўлады.

У гэтай частцы дэбатаў Ежы Хмялеўскі, галоўны рэдактар штомесячніка «Czasopis», дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, суарганізатар «Беларускіх трыялогаў» Сакрата Яновіча пераконваў:

— Самы вялікі міф, які мяшае, гэта ўспрыманне Беларусі як польскіх крэсаў. Гэты міф узмацняе Карта паляка.

Лявон Тарасэвіч:

— Карта паляка гэта як карта фолькcдойча, трактаванне грамадзяніна як лепшага. Гэта самая вялікая памылка польскай палітыкі на Усходзе. Нельга дзяліць народ на лепшых і горшых.

Анэта Прымака, аўтарка сайта прысвечанага бежанству:

— Фундаментальны міф прысутны ў пакаленні маіх бацькоў гэта той, што трэба адмовіцца, схаваць сваю беларускасць. У мяне ёсць адчуванне, што гэты міф працягвае функцыянаваць. Мова ўжо не тое, вакол чаго можна пабудаваць сваю ідэнтычнасць.

Славамір Ратайскі:

— Гэта баланс паміж пачуццём сораму і быццём ахвярай, быццём горшым. Усе мы ўдзельнічаем у працэсе стаўлення на лакальнасць. Гэтым жыве еўрапеізм. Быццё лепшым, гэта быццё самім сабой, лакальнасцю.

Катажына Савіцкая-Мяжынская з Універсітэта ў Беластоку:

— Трэба адрозніваць міф ад стэрэатыпа. Міф з'яўляецца неабходнасцю даць сэнс новай гісторыі.

Лявон Тарасэвіч:

— Параноя заключаецца ў тым, што пры знікненні прастор беларускай культуры найбольш пацярпелай будзе польская культура, таму што не будзе ўзбагачацца ёю.

У другой частцы дэбаты, азагалоўленай «Літаратура», прынялі ўдзел пісьменнікі Міхал Андрасюк, Анджэй Стасюк і Юры Андруховыч (Украіна). Міхал Андрасюк, заканчваючы сваю новую кнігу, будучую — як ён сказаў — унутранымі партрэтамі «ягоных» беларусаў, якой героем з'яўляецца беларуская вёска, пачаў з пытання:

— Ці беларускі міф гэта не міф, створаны беларускай літаратурай? Ці гэта не пісьменнікі стварылі беларускую дзяржаву, выкарыстоўваючы міфалагічную зямлю Вялікага Княства Літоўскага, з якога вырасла сучасная Беларусь? Можна прайсці ўсю Беларусь і пытацца, дзе яна, напрыклад, глядзячы на беларускамоўную.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Дзень Незалежнасці Украіны

Украіна 24 жніўня святкавала Дзень Незалежнасці. Украіна мае свой сапраўдны Дзень Незалежнасці. Яна за гэты дзень змагаецца. Яна вартая гэтага свята. Гэта самае вялікае дзяржаўнае свята кожнай краіны, якая гэтую незалежнасць сапраўды шануе і беражэ. Па Кіеве на святочным парадзе ўпэўненым маршам праходзяць узброеныя вайскоўцы і баявая тэхніка ды накіроўваюцца прама на фронт. На ўсход. Туды, дзе трэба не толькі задэклараваць свае адносіны да незалежнасці любай Радзімы, але і дзейсна змагацца за яе, і рэальна рызыкаваць уласным жыццём. Туды, дзе ўжо загінулі сотні такіх жа самых змагароў за незалежнасць, якія таксама хацелі жыць, радавацца жыццю, апекавацца сем'ямі, будаваць планы на будучыню... Яны мелі гэтыя планы. Светлыя, радасныя, аптымістычныя... Але... Але сваю будучыню аддалі за вольную будучыню свайго народа, за незалежную будучыню сваёй Радзімы.

Той цывілізацыйны выбар, які ўкраінцы з энтузіязмам і надзеяй прынялі на Майдане, не ўдалося ажыццявіць без жудасных і шматлікіх ахвяр. Здавалася б, што той крыві, якая была пралітая на Майдане, было больш чым дастаткова, каб увесь свет, уключаючы і Расію, дакладна зразумеў, якім шляхам вырашыў ісці украінскі народ і што з гэтага шляху яго ўжо ніхто і ніколі не зможа спіхнуць. І што аддадзеныя за гэты шлях бясцэнныя жыцці Нябеснай Сотні ўжо сталі цвёрдым гарантам незваротнасці гэтага працэсу. Гэта было зразумела кожнаму, хто хоць крыху знаёмы са значэннем слова „зразумела". Ды не ўсе захацелі гэта разумець. І таму тое супрацьстаянне на Майдане паміж украінскім народам і тагачаснай прадажнай і марыянеткавай уладай, на жаль, не стала канцом праліцця крыві, а толькі яго пачаткам.

Не ўсе пагадзіліся з тым, што толькі ўкраінцы валодаюць правам вырашаць будучыню і лёс украінскага народа. І калі раней, яшчэ на самым пачатку расійска-ўкраінскага канфлікту, такія фразы расійскай дыпламатыі як „кіеўская хунта", крыху для прыстойнасці разбаўляліся фразамі „брацкі народ", то зараз расійская рыторыка з лёгкасцю абыходзіцца без завярэнняў у братнім сяброўстве і дэкларацыі добрых намераў. Усё часцей гучыць жудаснае слова „вайна".

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка, выступаючы ў гэтае свята перад суайчыннікамі, назваў гэтую вайну Айчыннай вайной 2014 года за незалежнасць Украіны. Аналогіі, якія ён правёў з вайной супраць фашызму, цалкам зразумелыя, як і парад войск перад рашучым боем. „Вайна супраць знешняй агрэсіі. За Украіну, за яе свабоду, за гонар і славу, за народ. За незалежнасць", — заявіў ён.

У гэтых словах, а яшчэ выразней у інтанацыі і эмоцыях, з якімі яны былі сказаны, прагучала ўсё. І яго вострая занепакоенасць лёсам краіны, і яго валоданне праўдзівай сітуацыяй, і дакладнае разуменне таго, хто яму супрацьстаіць і з якой смяротнай небяспекай сутыкнулася яго нацыя, і рэальнае ўяўленне сваіх сённяшніх мажлівасцей. Гэта важна. Вельмі важна. Але ў гэтых словах прагучала і яшчэ нешта, мабыць яшчэ больш важнае. Самае важнае. У гэтых словах гучала вера ў сваю праўду, у моц і патрыятызм свайго народа, у яго нескаронасць, у яго здольнасць стаяць да канца і прайсці наканаваны лёсам шлях з годнасцю і гонарам. Прайсці яго так, каб у будучым вольныя грамадзяне незалежнай Украіны праз вякі з удзячнасцю і гонарам узгадвалі цяперашні перыяд жыцця свайго народа, якому наканавана было зрабіць лёсаносны выбар і прайсці найскладанейшыя выпрабаванні.

Украінцы слухалі прамову свайго кіраўніка, якога яны абралі, глядзелі на сваё войска, якое толькі-толькі пачало сапраўды рэальна адраджацца, маршыравалі ў складзе гэтага войска па цэнтры сваёй сталіцы, цешыліся колерамі свайго нацыянальнага сцяга, выявай свайго герба, спявалі на сваёй мове свой украінскі гімн. Яны адчуваюць сябе народам. Яны, і толькі яны з'яўляюцца цвёрдым гарантам незваротнасці выбранага на Майдане шляху. Яны і толькі яны з'яўляюцца гарантам незалежнасці сваёй краіны.

З Днём Незалежнасці вас, украінцы! Са святам цябе, Украіна!

**Віктар САЗОНАЎ**



# Як прусак

Прусак мае, здавалася б, незразумелую ўпартасць. Вымесці яго з цёмных схованак дома недастаткова, каб знеахвоціць яго да вяртання. Неўзабаве вернецца на старое смецце, багацейшы на стратэгічныя веды, што венік можа найхутчэй прыемна яго пачасаць, з такім жа неэфектыўным эфектам, як дыпламатычная недалікатнасць Меркель і Абамы ў адносінах да Пуціна. Так што не дзіўна, што прусак пачынае ігнараваць не толькі стары добры венік, але і супрацьінсектныя атрутныя рэчывы ці нават цяжкае абсталяванне ў выглядзе тэпціка ўласніка, разлютаванага ягоным уварваннем. Трэба прытым адзначыць, што прусак размнажаецца без пакаяння, перадаючы ў спадчыну ваенны вопыт сваім незлічоным нашчадкам. І ім нястрашныя ніякія атруты, таму што набыўшы імунітэт на іх як героі бліскучых апавяданняў Венядзікта Ерафеева на дэнатурат або астуджальныя вадкасці, хлебчуць іх з задавальненнем, як быццам гэта было найлепшае бургундскае віно. На жорсткія напады чаравікаў таксама знайшлі спосаб, даючы рэпрадуктыўную інтэнсіфікацыю. На працягу некалькіх дзён на пары прусакоў памнажаецца да дзясяткі асобін. А з тых — чарговыя сотні. Ні адзін з нават самага рашучага чаравіка не можа справіцца з іхняй юрлівасцю. Аднак ані чаравікам, ані венікам трэба змагацца з імі. Адзіны надзейны, прытым элегантны спосаб на іх — выдаленне ўсяго смецця з хаты. Прытым да апошняй крошкі!

У тэорыі гэта можа быць зроблена. Горш з практыкай. Возьмем, да прыкладу, Украіну. Ці можна за кароткі час выгарнуць з яе расійскую агентуру, што пануе па ўсіх структурах краіны, калі невядома, хто з суддзяў, пракурораў, паліцэйскіх і армейскіх генералаў і вышэйшых службовых асоб адміністрацыі паддаўся яе злавеснай індактрынацыі? Калі нават невядома, хто з работнікаў, адказных за абарону дзяржаўнага суверэнітэту, з'яўляецца ўкраінскім патрыётам, а хто прарускім прыхільнікам? Або здраднікам. Ці можна ад аднаго дня пазбіраць гэтыя ўсе прагорклыя крошкі: шырока распаўсюджаную карупцыю і крадзеж алігархаў, беззаконне і галечу, каб не прыцягвалі да сябе прусакоў? Як вярнуць тут і цяпер грамадскі давер да справядлівай усемагутнасці іх расстроенай дзяржавы, калі раздзірае яе інфляцыя, эканамічны калапс, сацыяльнае падзенне? Калі няма грошай на зарплаты для настаўнікаў, лекараў, дзяржаўных служачых, паліцэйскіх і салдат. Ці ў такой сітуацыі, калі ідзе крывавая вайна з Расіяй за Данбас і Луганск, да прарасійскіх прыхільнікаў трэба ставіцца як да ворагаў і выгнаць іх прэч? І ўсё ж іх ёсць некалькі мільёнаў. У большасці не рускіх, а зблытаных пуцінскай і раней савецкай прапагандай украінцаў. Магчыма, у некаторых частках прадажнікаў, якія не хочуць памятаць аб мільёнах ахвяр бесчалавечнага голаду 30-х гадоў ХХ стагоддзя, ані пра тое, хто да гэтага спрычыніўся.

Так, не ўдасца лёгка Украіне ачысціцца ад уласнага смецця. Залягае яно яе глыбокія, найбольш сакрэтныя закуткі, дзе зарастае постсавецкай цвіллю і ліпкім пылам апошніх 20 гадоў дзяржаўнага безгалоўя, партыйнай змоўшчыны, тусовачнай прагнасці і на канец пагарды палітычных эліт да простага чалавека. І, у выніку, пагарды чалавека да чалавека. А гэта ж сапраўдны рай для кожнага прусака.

На жаль, не толькі надгнілыя крошкі прывабяць да сябе прусака-таракана. Ён таксама любіць добрую жратву. Рускі канвой пустых грузавікоў для пацярпелага ад вайны насельніцтва Луганска і Данецка, нарэшце, праравўся на тэрыторыю Украіны. Без згоды яе ўлад, без ведама Чырвонага Крыжа. Незаконна. Бязлітасна. Як, вядома, таракан. Без крышынкі павагі да ахвяр вайны, якія чакаюць дапамогі. Без лякарстваў, без ежы, без цёплых коўдраў, без пітной вады. Але не для таго расійскія грузавікі ўехалі ва Украіну пустымі, каб пустымі вярнуцца ў Расію. Са спазненнем аказалася, што ўся гуманітарная дапамога з'яўляецца вялікай нахабнай маной. Гэта ўсё для таго, каб вывезці з луганскіх заводаў ваенную тэхніку, машыны і іх запасныя часткі. Каб абрабаваць украінцаў з іх уласнасці. Менавіта таму расійскія ўлады кінулі ў бок мяжы з Украінай 300 вялікагрузных аўтамабіляў. Але праравалася праз яе ледзь каля дваццаці. З чаго яшчэ Расія мае намер абрабаваць Украіну?

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца



# IV «Bulbamovie»

Пры нагодзе нядаўняга ўдзелу ў дапрэм'ерным скрынінгу пад адкрытым небам нова́га фільма мінскага рэжысёра Андрэя Кудзіненкі ў міхалоўскай Бяндзюзе, у мяне была магчымасць пагаварыць хвілінку аб адзіным у Польшчы фестывалі беларускага кіно «Bulbamovie» з яго заснавальнікам і арганізатарам Янушам Гаўрылюком. У гэтым годзе будзе чацвёрты выпуск фестывалю. Пасля паказаў кіно ў варшаўскім кінатэатры «Мурануў», фільмы будуць паказаны ў шэрагу іншых мясцовасцей. Ужо ў чацвёрты раз таксама — у адпаведнасці з планамі на сённяшні дзень — фестываль абміне Беласток. Сёлетняя праграма будзе складацца ў асноўным з прэм'ерных паказаў (у Варшаве, 24-26 кастрычніка).

У першы дзень фестывалю арганізатары зробяць фільмавы паклон у бок Украіны. Паказаных будзе 13 трэйлераў дакументальных фільмаў пастаўленых у рамках праекта «Маладыя аб маладых. Украіна. Беларусь», праведзенага вядучымі польскімі дакументалістамі. Група маладых творцаў з Украіны і Беларусі (леташнія пераможцы фільмавага конкурсу ў рамках «Bulbamovie») пад іх вокам прайшла цыкл семінараў у Кіеве і Варшаве, і ў выніку ўзніклі сцэнарыі і трэйлеры фільмаў, якія будуць створаны.

Разам з фірмай «Aginst Gravity» і кінатэатрам «Мурануў» запланаваны паказ новага фільма Сяргея Лозніцы «Майдан». Будуць прадстаўлены тры мастацкія фільмы ў рамках блока пад загалоўкам «Беларуская фільмавая альтэрнатыва». Гэта самыя сучасныя беларускія фільмы, якіх дзейнні адбываюцца ў сучаснай Беларусі, выкананыя па-за афіцыйнай і адзінай толькі кінастудыяй, якой з'яўляецца «Беларусьфільм». На фестывалі таксама можна будзе ўбачыць поўнаметражны дэбют знакамітага беларускага дакументаліста, лаўрэата прэмій у больш чым трыццаці кінафестывалях, члена Еўрапейскай кінаакадэміі Віктара Аслюка «Рускі». Фільм быў нядаўна завершаны і трапіў на гэтак званую «паліцу» «Беларусьфільма». Сам рэжысёр будзе госцем фестывалю, а таксама членам журы сёлетняга фестывальнага конкурсу для маладых незалежных мастакоў Беларусі. У гэтым годзе не будзе падзелу на катэгорыі (дакумент, мастацкі фільм ды анімацыя). Фестываль накіраваны на кароткаметражнае кіно, але калі прыйдзе на конкурс поўнаметражны шэдэўр таксама будзе ўдзельнічаць у конкурсе. Фільмы будзе глядзець і ацэньваць міжнароднае журы (польска-беларускае). Падчас фестывалю, між іншым, упершыню будзе паказаны эцюд «Таямніца гарбатай ямы», які з'яўляецца першай кінакарцінай новаўзнікаючага, агульнабеларускага кінапраекта «Хранатоп» аўтарства групы сучасных беларускіх рэжысёраў і песеннікаў. Мы згадалі пра гэты праект у «Ніве» з нагоды сусветнай прэм'еры фільма Андрэя Кудзіненкі ў Бяндзюзе, які мае быць паказаны ў канцы фестывалю. На сайце фестывалю можна прачытаць пра яго: «Наш праект накіраваны на прыцягненне ўвагі да кіно ўсходняга суседа і, праз фільмы, на азнаямленне з самой Беларуссю. Другой мэтай з'яўляецца пошук праз конкурс, прасоўванне і адукацыя маладых і таленавітых беларускіх рэжысёраў».

У Януша Гаўрылюка я спытаўся, чаму «Bulbamovie» не гасцюе ў Беластоку:

— Не ведаю. Гэта, напрыклад, залежыць ад Мацька Ранта, што займаецца кіно ў Беластоцкім асяродку культуры. Ён мог бы прапанаваць нам паказы, у рэшце рэшт мы ездзім па ўсёй Польшчы, нават па наймешых мясцовасцях. Як правіла, у Беластоку ніхто нам гэтага не прапануе. Тым больш шкада, што з кожным годам усё больш і больш файныя гэтыя фільмы і расце зацікаўленне фестывалем у саміх творцаў. У гэтым годзе на конкурс ужо заяўлены больш за сорак фільмаў, і свае карціны прыслалі стваральнікі нават невядомыя ў фільмавым асяроддзі ў самой Беларусі.

Тым часам, найбліжэйшы шанц на сустрэчу з беларускім кіно беластачане будуць мець падчас фестывалю «Усход культуры — Іншае вымярэнне». У яго ходзе (30 і 31 жніўня) будуць прадстаўлены прэзентацыі з цыкла фільмавых паказаў «Суседзі», арганізаваных Беластоцкім асяродкам культуры. Свае фільмы пакажуць успомнены Віктар Аслюк і рэжысёрка-дакументалістка, рэпарцёрка і кінакрытык Вольга Дашук. На паказы ўваход вольны. Таксама прадбачаны сустрэчы з рэжысёрамі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Дзесяць гадоў Майстэрні габелену

— Выконванне мастацкіх габеленавых прац — самы просты спосаб ткацтва, які быў перад тканнем на кроснах. Габелен робіцца ў адну аснову, а ткаць на кроснах можна ў некалькі асноў. Габелены — непаўторныя мастацкія працы, якія выконваюцца дзясяткамі гадзін і паказваюць яны душу і ўражлівасць іх выканаўцаў, — заяўляе Зінаіда Якуць, старэйшы інструктар па справах мастацтва Гайнаўскага дома культуры і апякун «Майстэрні габелену», якая там дзейнічае ад дзесяці гадоў. Юбілей стаў прычынай адкрыцця ў жніўні ў галерэі «Гайна» ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы вялікай выставы прац удзельніц майстэрні.



Удзельніцы «Майстэрні габелену»

Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак пахваліў гайнаўскіх жанчын за мастацкія здольнасці і цярплівасць падчас працы. Такіх майстэрняў мастацкага ткання ў Польшчы мала, бо і інструктараў, якія патрапяць яму навучыць, няшмат. Зінаіда Якуць — выпускніца Мастацкага ліцэя ў Супраслі, якраз па спецыяльнасці мастацкая тканіна. Працуючы ў ГДК рашылася яна перадаць свае ткацкія ўмеласці і свой талент гайнаўскім жанчынам, для якіх мастацкае тканне стала жыццёвай *пасіяй*. Прыбылі яны ў галерэю «Гайна», каб адзначыць дзесяцігадовы юбілей «Майстэрні габелену».

— Гледзячы на тканыя працы відаць талент і ўражлівасць іх аўтараў, якія доўга і цярпліва іх выконвалі. Спадарыня Зінаіда Якуць адораная мастацкім талентам і ўмее перадаваць іншым веды і ткацкія ўмеласці. Моцна ангажуецца ў працу «Майстэрні габелену» і таму ўвесь час ёсць ахвотныя займацца мастацкім ткацтвам. Сёння добра відаць рэзультаты работы спадарыні Зінаіды, а гэта толькі адзін са шматлікіх напрамкаў дзейнасці нашага дома культуры, — сказаў бургамістр Ежы Сірак.

Ткаллям, якія найдаўжэй займаліся ў майстэрні, бургамістр уручыў дыпломы, кветкі і падарункі. Вялікі букет кветак атрымала ад сваіх вучаніц Зінаіда Якуць. Стала яна ўспамінаць пачаткі дзейнасці «Майстэрні габелену» і пахваліла сваіх вучаніц за поспехі, якіх дабіліся на працягу дзесяці гадоў заняткаў.

— Нашая майстэрня — месца здабывання новых умеласцей і разгортвання талентаў, але таксама месца сустрэч сябровак, бо зацікаўленне той самай справай набліжае нас адна да адной. Тканне патрабуе цярплівасці і дакладнасці. Тут трэба ведаць сэнс кожнай ніткі, якую працягваем праз аснову. Падчас працы адлучаемся ад акружаючай нас рэчаіснасці і ўзамен атрымліваем псіхічную раўнавагу і вялікае задавальненне. Мастацтва, а ў гэтым ліку і мастацкае тканне, узмацняе адчуванне ўласнай каштоўнасці і робіць людзей больш уражлівымі на прыгожасць акружаючага нас свету, — лічыць Зінаіда Якуць.

Пасля адкрыцця выставы і падвя-



Зінаіда Якуць і яе праца

дзення вынікаў дзейнасці «Майстэрні габелену», сабраныя сталі прыглядацца паасобным працам.

— Падчас заняткаў у «Майстэрні габелену» мы не толькі вучымся мастацкаму тканню, але таксама адпачываем. Міла і сімпатычна праводзім вольны час, якога ў нас, пенсіянераў, многа. Нашы работы выконваем з выкарыстаннем ваўняных і баваўняных нітак ды іншых матэрыялаў. Вялікія карціны мы выканалі апошнім часам з выкарыстаннем шпагату. Мы яго малявалі і выконвалі матывы дрэў. Гэтыя работы асабліва цікавыя і заахвочваюць да роздумаў. Спачатку мы выконвалі сваю працу на працягу года, а то і даўжэй, — расказвала Лідзія Назарук, былая настаўніца.

На выставе красуюцца тканыя «карціны», вытканыя між іншым метадам габелену. У белмузеі можна ўбачыць тканыя краявіды, кветкі, раслінасць, нацюрморт, біблейскія матывы. Частка жанчын, якія займаюцца мастацкім тканнем, належыць да «Майстэрні габелену» ад пачатку яе дзейнасці. З 2004 года ў Гайнаўскім доме культуры паўстала каля ста прац, вытканых *габеленавымі, сумаковымі* і *стрыжанымі* метадамі. Выставы прац гайнавянак былі ладжаны ў ГДК, Музеі і асяродку беларускай культуры, Педагагічнай бібліятэцы, паказваліся падчас пленэрных выставак, напрыклад, падчас «Кірмашу зубра». Мастацкае ткацтва жанчын з Гайнаўкі паказвалася таксама на агульнапольскіх выставах — XIV і XV Біенале аматарскай унікальнай тканіны ў Быдгашчы і падчас Трыенале непрафесійнай ткацкай творчасці «Турак-2013». Выстава ў Гайнаўскім белмузеі гэта агляд самых цікавых прац, вытканых на працягу 10 гадоў дзейнасці «Майстэрні габелену», з асаблівым акцэнтам на навейшыя работы.

— Я займаюся ад самага пачатку дзейнасці «Майстэрні габелену», гэта маё хобі. Некаторыя перасталі ткаць, дайшлі новыя асобы. Увесь час майстэрня адкрытая на новыя метады і тэмы. Я выткала краявіды, нацюрморт, раслінныя матывы. Падчас заняткаў я адпачываю і збіраю сілы змагацца з жыццёвымі праблемамі, — сказала Марыя Голуб, жонка пакойнага Міхася Голуба, дзеяча беларускага руху. Прыйшла яна на мерапрыемства з унукамі, якіх хоча зацікавіць мастацкім ткацтвам.

— Я — наймалодшая ўдзельніца майстэрні. Паміж намі, жанчынамі, сардэчныя сяброўскія суадносіны. Падчас нашых сустрэч, побач ткання, мы размаўляем пра нашыя жыццёвыя справы і праблемы. Мы ўжо моцна зжыліся з сабой, — заявіла Анна Такаюк, якая прыйшла на мерапрыемства з мамай і дачкой Уляй, якую пачала вучыць тканню. Супольная праца дачкі і мамы экспануецца на выставе.

— Калі мы навучыліся ткаць, пачалі больш увагі адводзіць на мастацкі характар прац. Для паспяховага выканання работы важная таксама адпаведная падборка каляровых нітак, — гаварыла настаўніца Людміла Якімюк.

Да юбілею «Майстэрні габелену» выдадзены быў буклет са здымкамі лепшых прац і прэзентацыя іх аўтараў. Гэтая публікацыя можа заахвоціць жанчын з Гайнаўкі і наваколля заняцца ткацтвам.

— Займаючыся мастацкім тканнем я адпачываю і набіраю сіл. Я ўдзячна Зінаідзе Якуць. Дзякуючы ёй здзейсніліся мае мары пра мастацтва, — заявіла Леанцінія Трахімюк.

Здзіслава Багдановіч і Яніна Цвалінская лічаць, што мастацкае тканне ўзбагачае іх і робіць больш адкрытымі на іншыя віды мастацтва.

— Аўтары прац пераконваюцца, што традыцыйныя спосабы ткання надалей з'яўляюцца цудоўным спосабам мастацкага выяўлення. З клубкоў каляровых нітак вычароўваюць яны краявіды, кветкі, іконы, часам абстрактныя матывы. Натхненне бярэм з мастацкіх шэдэўраў, фатаграфій, часта з захаплення акружаючым нас светам. Падчас заняткаў жанчыны вучацца розным спосабам ткання, паказваюць багатую ўласную прапанову, як у тэхнічным, так і ў мастацкім плане. Кожная асоба індывідуальна разгортвае свой талент, што добра бачна на работах прэзентаваных на выставе. Спачатку мы вучыліся розным метадам працы і ўдасканальвалі свой варштат. Пасля ткачыхі пайшлі кожная сваёй дарогай. На кожнай тканай карціне відаць індывідуальны мастацкі рост майстрых. Хаця карыстаюцца яны тымі самымі мастацкімі прыёмамі, то на працах відаць індывідуальны стыль работы, — сказала Зінаіда Якуць.

— Прэзентаваныя на выставе працы гэта мастацкія карціны. Яны цікавыя з-за мастацкіх спосабаў ткання і тэм, якіх кранаюць. Тут добра відаць талент жанчын, якія займаюцца ў нашым доме культуры. Я пад вялікім уражаннем ад пабачанага. Бачым любоў ткачых да мастацтва і прыхільнасць да працы з каляровымі ніткамі. Удзельнікі «Майстэрні габелену» становяцца больш уражлівымі людзьмі, вучацца цярплівасці і таму дзейнасць майстэрні важная ў працы нашага дома культуры, — заявіла мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін, якой арганізаваць мерапрыемства дапамагала старшая інструктар па справах мастацтва ГДК Анна Тарасюк.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Супрасльская дэмаграфія

Зараз у Супрасльскай гміне пражывае 14 090 жыхароў у 29 мясцовасцях. Горад Супрасль налічвае 4 540 чалавек і гэта адна трэцяя частка ўсяго насельніцтва гміны.

Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца: Грабаўка — 3 234 жыхары, Засцянкі — 2 346, Сабалева — 1 317, Агароднічкі — 734, Каракулі — 554, Саўляны — 349, Цяснэ — 326, Генрыкова — 316 і Целічанка — 69.

У дваццаці малых мясцовасцях пражываюць 343 жыхары. На працягу трох апошніх гадоў у нябыт адышлі два паселішчы Зялёная і Пячонка-Калёнія. Зараз адна асоба жыве ў Пад'ялоўцы, дзве ў Здроях-Калёніі, сем у Садовым Стоку-Калёніі, восем у Туро-Калёніі і дзевяць у Дубоўніку-Калёніі.

Ад 10 да 20 чалавек пражывае ў маленькіх вёсачках: Варонічы, Заціша, Козлы-Калёнія, Копная Гара, Краснае, Красны Лес, Маёўка, Падсаколда, Суражкова і Ялоўка. Невядома як доўга будуць існаваць дзве мясцовасці — Пад'ялоўка зараз з адным жыхаром і Здрое-Калёнія з двума.

Значна павялічылася колькасць жыхароў у Грабаўцы — на 255, у Сабалеве — на 184, у Засцянках — 125, у Агароднічках — на 75, у Цясным — на 67, у Саўлянах — на 39, у Генрыкове — на 33 і ў Каракулях — на 23.

Сёлета ў Супрасльскай гміне нарадзілася 93 дзяцей і памерлі 65 асоб. За тры гады лік жыхароў павялічыўся на 782 чалавекі! Значыць, вялікая падбеластоцкая гміна на дэмаграфічным плюсе.

**(яц)**

## Сустрэча з французамі

У Будах каля Белавежы 31 ліпеня адбылася сустрэча фальклорнага калектыву „Нараўчанкі" з французскімі турыстамі.

Са шматлікай групы французаў толькі дзве асобы валодалі польскай мовай: жанчына з Люблінскага ваяводства, якая жыве ў Францыі, і яшчэ адзін мужчына. Яны былі перакладчыкамі паміж „Нараўчанкамі" і турыстамі. „Нараўчанкі" прывіталі французскіх гасцей беларускімі і польскімі песнямі, а таксама падрыхтавалі абрад даўняга беларускага вяселля.

Я ад нейкага часу спяваю ў гэтым калектыве і аглядаў вясельны каравай, маршалка перавязанага ручніком. Былі падарункі маладым, прыданне, вышываныя ручнікі і багатае застолле. Госці з цікаўнасцю аглядалі сцэнкі вяселля, тым больш, што маладыя былі выбраны з французаў. Вясельнікі пілі, елі, забаўляліся. Гучалі беларускія песні, а пад музыку Пятра Скепкі французы танцавалі і запрашалі на танцы спявачак з Нараўкі. Вечар праходзіў у прыемным настроі, французы аказаліся сімпатычнымі людзьмі. Яны не разумелі нашай мовы, але яднала нас песня.

На развітанне я запрапанаваў праспяваць папулярную песню мінулых гадоў „Падмаскоўныя вечары". Французы яе ведалі і спявалі пафранцузску, нашы спявалі па-руску. Супольны спеў быў асабліва прыемным. Па тым, як французы пацiскалі нам рукі, як гаварылі „дабранач", як свяціліся іхнія вочы было зразумела, што выступленне „Нараўчанак" ім спадабалася. І хоць на дварэ ішоў дождж, „Нараўчанкі" таксама былі задаволеныя сустрэчай з грамадзянамі Францыі.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

# Рэлігійнасць па-целушэцку

— Праз выбоіны, — прызнаецца Мікалай Андраюк з Целушок. — Заблудаўская гміна адмаўляецца зрабіць нам дарогу ў Пухлы, кажа, што дарога павятовая, таму людзі перасталі ў царкву хадзіць.

На Спаса вернікаў у пухлаўскай царкве было сапраўды як на лякарства. Пару пажылых жанчын прыехала сюды па запыленай мінаючымі іх аўтамабілямі калдобістай жвіроўцы. Іх святочнае адзенне пылілася на веласіпедах маркі «Беларусь», «Украіна» і «Мінск». Некалькі мужчын бяседавалі паміж прыпаркаванымі пад царквой «Сітраэнамі». Што сталася з астатнімі? Ці на Грабарку павыязджалі, ці мо аўторак сярод тыдня ім не паспрыяў? Невядома. А ў царкве жменька пажылых пеўчых не спраўлялася з накінутай ім танальнасцю, супярэчнай з правіламі натуральнага вясковага спеву. Які гэта спеў, калі ён вымушаны. Служба працягвалася, здавалася, бясконца. Адна бабуля так і не дачакалася завяршэння, а значыць і асвячэння спасаўскага кошычка з садавінай.

— Вада ў хаце ёсць, сама іх сабе асвячу, — звярнулася да адпачываючай у час службы на прыцаркоўнай лавачцы сяброўкі.

Пасля спасаўскай службы, як заўсёды, хрэсны ход падаўся ў аддаленыя на 2 км Целушкі. Надта сціплая кампанія — толькі бацюшка, дзяк і некалькі сялян з іконай і харугвамі. Усе астатнія разбегліся як мага хутчэй, каб перакусіць і павыстаўляць перад хаты сталы з хлебам і соллю.

А ў Целушках шумна, быццам у пасляваенны, даіндустрыяльны перыяд. Нават вада на асвячэнне вясковых панадворкаў прыехала сюды з Грабаркі разам з Яўгенам Мартынюком. У той бок сабраўся ён пехатою ўжо 23 раз. Прасіў у Бога здароўя для сям'і і блізкіх.

Ішлі разам праз цэлую вёску. Асвячалі нават даўно апусцелыя панадворкі. За падхатнімі сталамі ставалі шматлікія і нешматлікія сямействы, з унукамі і без унукаў, удовы і разведнікі, бо ж усяляк у жыцці бывае.

Марыя Мацеюк накрыла свой стол прыгожым, льняным, уласнаручна вышытым і змярожаным абрусам.

— У мяне яшчэ і другі такі сам ёсць, — прызнаецца.

— Цяпер крыху польскіх тут маем, пару хат. Не ўсе прымаюць. Адзін у той дзень увогуле з вёскі ўцякае, але ёсць і такія, што выносяць стол, — гаворыць спадарыня Марыя.

Паводле вясковай традыцыі, асвяціўшы свой панадворак, гаспадар павінен далей ісці па вёсцы, аж да канца. Там, пры крыжах, бацюшка чытае спісак усіх жыхароў і служыць малебен, пасля якога можна разыходзіцца па хатах.

— Свята тое хіба калісь-калісь заклалі, — кажа Марыя Мартынюк. — Яшчэ па палосках такіх, загонах хадзілі, шахаўніцамі іх называлі. Ставалі кожны на свой загон. Цяпер ужо калёніі, усё поле ў адным кавалку, дык перасталі. У семдзесят першым годзе атрымалі мы калёніі.

— Калісь і кароў пад вёску зганялі, каб пасвяціць, — гаворыць Мікалай Андраюк. — Свіней чамусьці не свяцілі. Мая баба казала, што калісь Ісус Хрыстос падарожнічаў, хадзіў па свеце. Схапіў каня, каб рэчку на ім пераехаць. Конь не захацеў. Перавёз яго асёл. Таму свяцяць кароў, аслоў, а коней не свяцяць.

Быў такі час, калі забаранялі хадзіць па вёсцы з іконамі. Доўжыўся ён з пяцідзясятых да васьмідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя.

— Мы былі вымушаны з гэтым пагадзіцца, хаця баяліся няшчасця, бяды, — тлумачыць Марыя Харытанюк. — Тады толькі ў царкве спецыяльную абедню за вёску заказвалі. Потым, калі стала інакш, у гміну пачалі пісаць, прасіць, каб дазволілі.

— Свяцяць патрэбна, — кажа Марыя Мацеюк. — У нас пакуль няма такой бяды як там — дзесьці гарыць, дзесьці залівае. Многа абедняў за вёску мы служым: на Пяценку — ад пажару, на Мангора (Палажэнне рызы) — за дабытак і на Ганну — адну, другую.







Свяцілі таксама вялікі, драўляны крыж, які стаіць на скрыжаванні дарог.

— Яшчэ дзедаў дзед пра той крыж гаварыў, — успамінае Марыя Мацеюк. — Хвароба ў вёсцы была. Мужчыны за ноч хвойку з Папоўшчыны прыцягнулі і нібы абаралі вёску неяк, а жанчыны напралі і выткалі такое палатно, каб абцягнуць вёску. Мой дзед таксама араў, валамі. Тады хвароба ўстала. Той крыж намнога быў вышэйшы, але вельмі ён хітаўся і адзін год тут зышліся і кавалак адрэзалі. Перакладзіна была ўжо гнілая, то з гэтага крыжа зрабілі яшчэ і перакладзіну.

Целушэцкі хрэсны ход, гарманічны гоман вобразаў і гуку, сапраўдная Візантыя.

Каля стала моляцца бацюшка з дзякам, чытаюцца Евангелле і запіскі за здароўе, а ззаду адначасова спяваюць набожныя песні.

— Калісь спявалі ўсе прысутныя і з царквы ў вёску з хрэсным ходам ішлі ўсе. Так увесь час у нас было. За бацюшкам спявае дзяк, а мы, што ж мы, сваю песню спяваем, — падсумоўвае спадарыня Ліда.

— Цёто, пачынайце, — просіць саракагадовая ахвотная да спеву жанчына.

— Няма каму спяваць, нас тут пару пеўчых толькі засталося. А тыя, што там за намі ідуць, толькі пішчаць, не ўмеюць яны спяваць добра. Калісь галасоў поўна было і дыскантаў, і альтаў, а што ж цяпер, — прызнаецца спадарыня Марыя.

І праўда, беластоцка-целушэцкія модніцы не толькі пішчалі, але яшчэ надавалі сваім піскам такі тэмп, што целушэцкім пеўчым дыханне адымала, ажно кулясы з рук падалі.

Калі пра моду ідзе, то не было роўных васьмідзесяціпяцігадовай спадарыні Надзі. З нагоды вясковага свята апранулася яна ва ўласнаручна пашытую блузку ў стылі канца дзевятнаццатага стагоддзя. На белым фоне сінія, дробненькія кветачкі, аздобны каўнерчык і какетка. На ранішнюю службу ў царкве выбрала яна зялёную блузачку ў той жа стылістыцы. Абедзве блузкі добра выглядалі з чорнай спадніцай у складкі.

— У мяне ўсе сукенкі, усё сама я шыла, — прызнаецца жанчына.

І так з самой раніцы да шостай вечара. На нагах і са спевам з глыбі душы. Пад канцавымі крыжамі прагучала яшчэ Мнагалецце. Здавалася, што і па хатах разыходзіцца ніхто не спяшаўся.

Калісь, зараз пасля абыходу вёскі, людзі збіраліся на святочны пачастунак. Гуртаваліся па дзесяць ці пятнаццаць хат, запрашалі бацюшку. Праз год чарговых пятнаццаць гэтым займалася, і так да канца вёскі. Цяпер частуюцца таксама надта добра, хаця ў менш афіцыйным выданні.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# У чарзе да афонскіх рэліквій



*— Кідай усё і прыходзь! Тут столькі народу, што я яшчэ не бачыла!* — цётка ў хустцы клікала праз свой смартфон суседак, сванек, сваячак. У чарзе, якая расла літаральна з секунды на секунду, звані́лі амаль усе. Такой праваслаўна-медыйнай карцінкі я яшчэ не бачыла. Вуліца св. Мікалая напамінала медыйную біржу, і адначасна актывізаваліся сотні мабілак і смартфонаў. Дадаткова, праз узбуджаны паток народу, прабіваліся сігнальчыя аўтамабілі, таксі, раўла хуткая дапамога...

*— Кідай усё і прыходзь!* — паўтаралі ўсе навокал...

Чарга ўжо два разы акружыла Свята-Мікалаеўскі сабор, вылілася за браму ў бок Праваслаўнага цэнтра культуры, дабілася па вуліцу Грохавую ды павярнула і дацягнулася ажно па вуліцу Ліпавую. Пасля тэлефоннай мабілізацыі, яна разраслася яшчэ ўшыр — цяпер ля адной асобы выстойвалі дзве-тры сяброўкі. За гэта ніхто не крыўдаваў, не сварыўся. Прыгодныя суседкі частавалі цукеркамі, і бабска-царкоўнай звычкай папраўлялі мой каўнер і шалік. Адчуваўся настрой плямяннай блізкасці і свяяцтва...

Жнівеньскую ноч з 20 на 21 жніўня (з серады на чацвер) нельга было праспаць. У сталіцу Падляшша прыехалі рэліквіі са Святой Гары Афон: Рука святой, роўнаапостальнай Марыі Магдаліны (якая трымае тэмпературу цела 36,6⁰С) і частка Святога Крыжа, на якім распялі Ісуса Хрыста. Іх прыезд арганізавала Праваслаўнае брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. За шэсць дзён пабыўкі ў Польшчы святыні выставілі ў Варшаве, Бельску-Падляшскім, Сухавольцах, Кляшчэлях, на Святой Гары Грабарцы (тут прылажыліся сам прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі з жонкай Ганнай), Слохах-Аннапольскіх, Гайнаўцы, Звярках, Беластоку, Вроцлаве, Лодзі. Іх суправаджалі шэсць афонскіх манахаў ды віталі праваслаўныя і каталіцкія іерархі.

Пятро Крук, які працаваў у парадковых службах, мяркуе, што ў Беластоку праз сабор прайшло каля дваццаці тысяч чалавек...

— А чацвёртая частка ўсіх, — адзначае ён, — гэта каталікі.

* * *

Якраз гэтая экуменія і падштурхнула мяне пайсці *на мошчы* — як гаварылі ў народзе пра падзею. З'ява хрысціянскага адзінства далёкая ад ідэалу ў Беластоку. Таксама экуменічныя набажэнствы хутчэй прамаўляюць як фармальнасць. А тут было інакш. Прыезд святыняў быў агучаны ў касцёлах. Разам са сваёй аўчарняй з'явіўся сам арцыбіскуп Эдвард Азароўскі. Ён выказаў радасць ад супольнай малітвы і прыгожа распавёў пра хрысціянскі шлях Марыі Магдаліны.

Мае суседкі па чарзе, якія спачатку паўшэптам крытыкавалі экуменію (*A czy ona nam potrzebna?!*) пасля выступлення арцыбіскупа Азароўскага адразу памяняллі фронт:

— У нас жа адзін Бог, адна Мацер Божая, — гаварылі ўжо са зразуменнем і асалодай.

Стоячы ў чарзе з беластоцкімі жанчынкамі, чалавек спазнае ўсе парафіяльныя плёткі, найнавейшыя трэнды радзімай кулінарыі, цэны на агароднінай біржы. Іншай, больш прэстыжнай тэмай былі замежныя падарожжы. Іх абмяркоўвалі маладыя сужонствы з дзеткамі.

Чарга здзіўляла яшчэ сваёй нармальнасцю і грамадскім прадстаўніцтвам. Побач цётачак-багамолак у чарзе выстойвалі многія сем'і з дзеткамі, падлеткі, веласіпедыст у спартовым касцюме і касцы, знаёмы інжынер, настаўніца нямецкай мовы, працаўніца санэпідэмстанцыі, паліцыянт з падбеластоцкага мястэчка, прыгажуні ў туфлях на абцасах-шпілях. Ніхто не распавядаў пра хваробы, траўмы. Гэтаму відавочна паспрыяла асобная чарга, прыдуманая спецыяльна для інвалідаў і хворых. Большасць аднак хацела адстаяць сваё, каб такім чынам хоць крышку ахвяраваць сабой, перад сустрэчай з цудадзейнымі Рукой і Крыжам.

* * *

Мая сустрэча з афонскімі рэліквіямі пераўзышла ўсякія спадзяванні. Калі пасля сямі гадзін выстойвання ў чарзе я апынулася ў саборы, айцец Анджэй Місяюк (ён жа журналіст) якраз чытаў гісторыю пра грэчаскага паэта. Літаратар атрымаў ласку і натхненне на свой чарговы паэтычны том пасля таго як прылажыўся да Рукі Марыі Магдаліны.

Сам момант, калі ўрэшце прыйшла чарга прылажыцца да святыняў, трываў адзін міг. Гэта з-за звышгатовасці ахові, якая механічна папіхала да выхаду. І гэта якраз тады, калі вельмі хацелася пабыць у рассветленай, прасякнутай пахам міра царкве...

— Ты *штосць* пачула? — спытала ў мяне сяброўка.

— Вядома, пачула. А ты?

— Я таксама, — прамовіла сяброўка з радасцю. — Такі гарачы струмень пайшоў па целе ад Рукі.

У маім выпадку цуд прамаўляў яшчэ на свой асаблівы спосаб: у першы момант, пасля выхаду з сабора, я не пазнала свайго горада. Хоць набліжалася другая ночы, па вуліцы Ліпавай, як у сусветнай метраполіі, перамяшчаўся святочны паток людзей і машын. У паветры лунаў той жа пах міра. Пасля сямі гадзін выстойвання ў чарзе, у холадзе і голадзе, я не адчувала стомленасці.

Пятро Крук, якога пазней я папракнула за спех і недалікатныя паводзіны аховы, задумаўся:

— Бо нам здавалася, што гэтая чарга ніколі не скончыцца, — патлумачыў ён, — што ўсе не дастануцца ўсярэдзіну.

Цягам трынаццаці гадзін, калі ён кіраваў рухам, бесперарыўна перамяшчаўся паток людзей.

— І паверыце ў такое? — Пятро заззяў як сонца. — Разам з тым, як скончыліся маленні і трэба было ад'язджаць у Вроцлаў, падышоў апошні чалавек. Чарга скончылася. Значыць, тыя што хацелі, дасталіся да мошчаў.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



## На нашых дарогах

Ужо лета на зыходзе. Зараз дзеці і моладзь пойдуць у школу. На дарогах будзе большы рух і вучняў, і аўтобусаў. І таму варта звярнуць увагу на нашыя дарогі ды асабліва на іх абочыны. У Нараўчанскай гміне ёсць на некаторых нават асфальтавых дарогах шматлікія ўхабіны, між іншым, на адрэзку ваяводскай дарогі № 687 з Новага Ляўкова ў Плянту. Тут Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку яшчэ не закончыла рамонту маставой.

Найгорш маецца справа зарослых кустамі абочын некаторых дарог. Неабходна ссячы іх на абочыне дарогі ад чыгуначнага пераезда ў Плянце (гэта пуць з Гайнаўкі ў Семяноўку). Гэтая дарога бяжыць паралельна да пуці да колішняга вакзала ПКП з назвай „Нараўка" і далей паварочвае направа ў другую частку вёскі Плянта ды ў Гарадзіска.

Другая дарога з маставой, акаймаванай кустамі, гэта шлях ад ваяводскай шашы з Навасадаў у Юшкаў Груд цераз Нараўку і Бандары — ён у напрамку Лешукоў. На гэтай гравейцы ў кустах схаваны дарожныя знакі. З-за густога кустоўя (алешніку, ляшчын і іншых парод дрэў) дрэнна відаць дарожныя знакі ды крутыя павароты дарогі. Такая ж небяспека на скрыжаванні з ваяводскай шашой. Едучы з Лешукоў не відаць ні тамашняга асцерагальнага знака (!), ні хто едзе па ваяводскай артэрыі. Дарожныя службы гэтага не бачаць? Такіх жа дарог ёсць куды больш. І як тут раўнадушна аднесціся да ўсяго, што датычыць бяспекі на дарогах? Аказваецца, і гэта па ўсім відаць, што... можна.

Хутка ўжо забываецца трагічнае здарэнне на лешуцкай дарозе, калі загінула жанчына. Ехалі яны з мужам на матаролеры па палявой дарозе і трапілі пад колы аўтамабіля. З-за кустоў яны не ўбачылі самахода і шафёр іх таксама не заўважыў. Ехаў ён хутка, як толькі дазваляла тут асфальтавая роўная маставая. Хто б мог прадбачыць, што вось-вось здарыцца няшчасце.

Так яно ёсць, што калі не карчаваць кустоў у равах паабапал дарог, яны амаль увачавідкі „выходзяць" з рова на абочыну і падступаюць ажно да маставой. Агульнавядома, што дзе трэба, то трэба берагчы кустарнікі і дрэвы, але не ў вышэйзгаданых месцах. Тут яны абмяжоўваюць бачанне дарогі і праязджаючых самаходаў ды „завужваюць" шырыню і так вузкіх маставых.

Варта дадаць, што зімой у Нараўчанскай гміне на вузкіх мясцовых і павятовых дарогах абледзянелыя і аснежаныя павісшыя над маставой галіны дрэў б'юць па шыбах аўтобусаў. Гэта ж вельмі небяспечна! І як тут мінуцца з другім якраз праязджаючым аўтобусам ці грузавіком?

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Запрашэнне на фэст

У суботу, 30 жніўня гэтага года войт Нараўчанскай гміны і Гмінны асяродак культуры запрашаюць на беларускі фэст ля керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет).

У мастацкай частцы выступяць „Цаглінкі", тэнар Міхал Скепка з сябрамі, „Twister", кабарэ „Podlaskie Babeczki" і „Heven".

Мерапрыемства пачнецца а гадзіне 17-й, а закончыцца яно танцамі пры музыцы калектыву „Бяседнікі". Дык зычым прыемна правесці вольны час.

**(яц)**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# „Зорка” зноў каляровая!

Завітаў новы навучальны 2014/2015 год! Як файна сустракацца з Вамі за школьнай партай, гаварыць пра вучнёўскія радасці і турботы, вітаць творчыя спробы і мастацкія выступленні. Ужо з верасня пачнем друкаваць фотарэпартажы са школ. Нашая адкрытасць не мае аналагаў у рэгіёне — усе навучэнцы беларускай мовы могуць запрасіць „Зорку” і пахваліцца сваімі праектамі, дасягненнямі. А яшчэ важней: пагаварыць пра свае клопаты, праблемы, расчараванні. Бо ж вядома, дзе шмат задач і навукі, там таксама канфлікты, нервы, спакусы... Ды што тут талкаваць, вы самі ў сваіх допісах і літаратурных творах дасканала ўмееце перадаць настрой. Допісы — барометр вашай уражлівасці, інтэлектуальнага развіцця, зацікаўленняў. Вы прамаўляеце голасам свайго пакалення. Тут шмат бездапаможнасці, аднак добрыя пачуцці перамагаюць. Гэта цэнная падказка для нас — бацькоў, настаўнікаў. Каб паглядзець у ваш бок з большай любоўю, увагай, адказнасцю. І яшчэ адна рэч: калі пішам — мы абараняем сябе і свой свет. Не толькі ад забыцця, але і ад дрэнных людзей! Моц беларускага слова на пісьме — вялікая і жывая.



Для нашых карэспандэнтаў і аўтараў далей будзем арганізаваць літаратурныя конкурсы і журналісцкія майстар-класы. Неўзабаве „Зорка” зноў будзе каляровай, і зноў будзе магчымасць прамовіць класнымі малюнкамі нашых аўтараў.

Менавіта час канікулаў у „Зорцы” належаў нашым маладым супрацоўнікам, карэспандэнтам і ўдзельнікам Сустрэч „Зоркі”. Там засяродзіўся наш творчы патэнцыял, мары, памкненні і праблемы...

Звычайна з пачаткам школьнага года пачынаюцца і экскурсіі ў рэдакцыю. Тут на свае вочы можна пабачыць калыску беларускай пісьменнасці. Вас чакаюць сустрэчы з журналістамі, жывымі класікамі беларускай літаратуры, дзеячамі культуры. Здараецца, што прыязджаюць да нас вучні з канкрэтнай тэмай, каб яе такім чынам развучыць і дадаткова агучыць у СМІ. Вядома, нашай асноўнай задачай будзе прамоцыя беларускай пісьменнасці і добрага настрою сярод нашых чытачоў. Будзем прапанаваць шмат адукацыйных конкурсаў і сюрпрызаў, падказваць, што варта пабачыць і прачытаць. Пазмагаемся, каб разам з пашырэннем нашай еўрапейскай тоеснасці, паглыбіць любоў да беларускага слова. Каб родная мова жыла не толькі на трох уроках у тыдзень, але штодзённа, у нашых сэрцах. У гэтым заўсёды дапаможа Вам

**„Зорка”**

**Караліна КОНДРАТ,** Нараўка

## Верасень

Ідзе верасень лесам,
Ідзе верасень полем,
Назірае цудам,
Абсыпае свет колерам.

Лісточкі сыпле навокал,
Ганяе з дрэў сарок,
Верасамі абсыпаў лясны дыван,
Аж за галаву схапіўся Іван.

— Іванка, ты грыбочкі збірай
У шапачку не хавай,
Нясі іх проста дадому,
Будзе ўсім суп знаёмы.

Адорыў верасень свет цэлы,
І людзей і звяроў,
Цяпер кажа:
— Кастрычнік, маё месца займі.



**Рафал МАРЧУК,** Нараўка

## Школа

Школа — наш другі дом.
У ім вучацца школьнікі,
У ёй пазнаюць першае каханне,
У ёй забываюць пра хатнія праблемы
І пазнаюць сяброў,
На якіх могуць разлічваць.
Школа гэта вялікая сям’я.

## Віртуальная любоў

На Сустрэчах „Зоркі” я пазнаёмілася з Агнешкай. Яна прыгожая, добрая, таленавітая. Агнешка расказала пра сваю сям’ю. Яе старэйшы брат нарадзіўся ў Беларусі. Гэта мяне захапіла...

Я ніколі яго не бачыла, не размаўляла. Але калі я пачула расказы Агнешкі, хлапец мне моцна спадабаўся. Цяпер я не магу дачакацца, калі вярнуся дахаты і ўбачу яго на фейсбуку. Маю надзею, што ў нас атрымаецца добрае сяброўства.

**Наталля Васько** — *„Сутрачанская скрыня”*

**Оля ДЗЕВЯТКОЎСКАЯ,**
*Новая Воля,*
*школа ў Міхалове*

## Верасень

Калі ідзе верасень,
Тады пачынаецца восень.
Зноў пачынаецца школа
І восень каляровая.

# Вершы Віктара Шведа

## Найлепшая аснова

— Чаму ты, Мікалаю,
Чацвёрты клас паўтараеш?
— А гэта правілова —
Майго настаўніка аснова.

Сказаў ён: — Паўтарэнне
Дык гэта несумненна
Найлепшая дарога
Каб здабыць ведаў многа.

## Касцы

Тата са сваім сынам
Касілі канюшыну.
Азваўся раптам тата:
— Скасілі малавата.

— Каму ж касіць, скажы тады,
Ты стары, я малады.
І хоць слабыя сілы
Мы ж крышку накасілі.

## Спачувальнік

Сын малады, здаровы,
Стаяў і назіраў,
Як бацька коле дровы
І быццам спачуваў.

Бацька абліўся потам,
Ад працы сын адвык.
— Шкада, што да работы
Татка не ўзяў ручнік.

## Мама рыхтуецца да вайны

Бачыў у фільме Марэк:
Індзейцы малююць твары.
Тата сказаў, што яны
Рыхтуюцца да вайны.

Бацьку ад сынка малога
Была асцярога:
— Да вайны таксама
Рыхтуецца наша мама.

*Марта БОЎТРЫК,*
*Шымкі, школа ў Міхалове*

## Воўк

*Вялікі шэры воўк*
*Палохае майго брата!*
*Але для малых ваўкоў*
*Ён найлепшы тата!*

# Лёгка згубіць шчасце!



Даўным-даўно жыў на свеце воўк. Ён быў вельмі перагружаны працай. Прыбіраў у хаце, варыў яду, выгульваў дзяцей. Сям'я жыла ва ўтульнай хатцы. Там быў адзін пакой і кухня. За домікам знаходзіўся басейн, у якім купаліся дзеткі. Сям'я ваўкоў была шчаслівай. Дзеці вельмі любілі бацьку, ганарыліся ім. Усе ваўчаняты мелі добрыя адзнакі ў школе.

Аднойчы ваўчаняты задумалі схадзіць на раку.

— Толькі не плюхайцеся ў вадзе! — загадаў бацька,

— Добра, добра, — адказалі ваўчаняты.

Але яны, як гэта маладыя ваўчкі, не паслухаліся, адразу палезлі ў раку купацца. І трэба было ліха! Якраз, калі яны плавалі ў вадзе, у раку пацэліла маланка.

Бацька прадчуваў гора. Ён прыбег да ракі і стаў гукаць:

— Дзеткі, а дзеткі — дзе вы?

Не было адказу.

Тады ён пабег уздоўж ракі. Знайшоў усіх, але толькі адно ваўчаня ацалела. Наймалодшы сынок. Ад той пары бацька не спускаў з яго вока. Так яны жылі-гаравалі неразлучна. Здарэнне на рацэ адабрала ім шчасце. Усё з-за непаслухмяных дзетак! Ды што тут зробіш? Ваўкі заўсёды былі непаслухмянымі, такія ў іх сэрцы.

**Габрыся ТОРКА** — *„Пушчанскі голас"*

# Жнівень

Пагодлівая раніца. У сонцы рабіна рдзіць цёмна-аранжавымі шышкамі церпкіх, аксамітных ягад. На ржышчы — росная, дробненькая канюшына. На ўзмежках палеткаў чарнеюць буйныя ягады ажыны. Ад мэндляў — жытні пах. Мокры рамонак паспускаў пялёсткі абапал жоўтых лысін. Многа яго на поплаве. А на дарозе — адна пушыстая, апырсканая расой галоўка дзьмухаўца.

... Лес... Настоены на жывіцы, травах і кветках свежы халадок. Вятры заснулі на сцішаных галінах. З елак ападаюць іголкі і суха пахрустваюць на сцяжыне. На сасне празрыстая, як мёд, жывіца. Святлеюць бярозкі ў белых фартушках. На пастарэлым клёне спалохана зашчабятала нейкая птушка. Па камлі дуба шарганула лапкамі бурахвостая вавёрка. Знайшла грыб і ўжо ласуецца.

На палянцы над кветкамі джынгаюць пчолы. Весела трапечацца, перабіраючы чырвона-чорнымі крылламі, матылёк. Туды, дзе струменіць крыніца, выйшла з сасонніку насцярожаная ласіха з малым. Травы патаемна нешта шэпчуць.

... Плыве адвячорак. Цішыня. Камары таўкуцца стаўпом. Вільгаццю дыхнула сенажаць. Копы сена ў далінах пахнуць, як насонная настойка. Гэтым пахам замірае ў захапленні рэчка.

Закраўся ўжо змрок у яліны. Іскрацца толькі ліхтары чырвоных шышак. Дагарае акраец сонца. Гасне млявым дымам апошняя хвіліна дня. Ціха-шэра вечарэе ў бярозавых завулках. Вечар туліцца да яшчэ цёплых бяроз.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



## Наша мама

*Мы кахаем нашу маму,*
*Для яе ўсмешку маем,*
*Нават калі яна змучаная,*
*Заўсёды думае пра нас.*
*Мама любіць і прытуліць,*
*Клапоціцца ўвесь час,*
*Пра настрой вясёлы дбае,*
*Кожны дзень нас забаўляе.*
*Сёння ў мяне вялікая мара*
*Пажадаць матулі зрання:*
*Каб ты доўга нам жыла!*
*Будзь вясёла як вясна!*

***Сільвія ГРЫКО,***
*пяты клас ПШ у Міхалове*

## Польска-беларуская крыжаванка № 35

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 31:

Век, кума, малако, марозіва, губа, ар, міс, пік, свята. Век, мі, магік, парус, лоб, каза, рукі, язык, на, арка.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Sąsiad | Krok | | Księżyc | | Śmiały | Kuzyn | Ścięgno | |
| Konste-lacja | | Strefa | | Rada | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| Sokół | | | | | | Bierz | | | |
| | | | Dynia | | | | | | |
| Gen / Data | | | | | Okno | | | | |

# Марыя Магдаліна ў Слохах-Аннапольскіх

**Дзесяць гадоў таму ўзнікла задума пабудовы царквы ў Слохах-Аннапольскіх, вялікай вёсцы між Сямятычамі і Драгічынам. У свой час хадзіў я па вылітым ужо пад храм падмурку, і сузіраючы той падмурак, спадзяваўся, што будоўля будзе невялікай. Але ў апошні час вырасла яна ў даволі стройнае культавае збудаванне...**

Асвячэнне новай царквы ў Слохах-Аннапольскіх супала з прыездам з гары Афон у Польшчу рэліквій святой Марыі Магдаліны, якой прысвечаны новы храм. Падзея адбылася 20 жніўня. Ужо паўгадзіны да пачатку ўрачыстасці, калі я з чыгуначнай станцыі Сямятычы завітаў у Слохі, у цэнтры вёскі збіраліся людзі; там перасякаюцца гістарычны шлях з Драгічына ў Берасце, паабапал якога раскінулася вёска, з дарогай з Сямятыч у напрамку Вулькі-Набужнай. Побач гэтага перасячэння дарог і помнік пяцідзесяці васьмі жыхарам Слохаў, Вулькі і Клекатава, расстраляным гітлераўцамі ў пачатку аграмаднага наступлення на ўсход; яны, на падабенства віфлеемскіх дзетак, нявінна масава загінулі, бо стваралі ўяўную пагрозу панаванню тагачасных ірадаў. Вакол царквы, якая пастаўлена каля двухсот метраў за вёскай, пры дарозе ў Сямятычы, таксама стаў збірацца народ. Рэліквіі ў цэнтр вёскі былі прывезены згодна графіку, пунктуальна ў пятнаццаць мінут дзявятай, а адтуль у суправаджэнні ўрачыстага шэсця былі прынесены ў царкву.



Шэсце з рэліквіямі

Народу збіралася ўсё больш. Машыны занялі прадбачаныя ім побач царквы стаянкі ды абочыны дарогі мо звыш кіламетра ў напрамку Сямятыч. Адна з іх спынілася побач мяне — выйшаў з яе святар у пурпуры і прывітаў мяне паклонам; не спадзяваўся я такой ветлівай нечаканасці і крыху збянтэжыўся. Пасля ён адвярнуўся ў бок прысутных побач, вітаючы іх словамі „Sława Isusu Chrystu”; быў гэта новы драгічынскі біскуп Тадэвуш Пікус. Крыху пазней прыехаў мітрапаліт Сава і ў дзевяць гадзін пачалася літургія, у час якой была ўрачыста асвечана новая царква.



Рэліквіі нясе сямятыцкі епіскап Георгій

Службу ўзначаліў архіепіскап Сава ў саслужэнні чатырох епіскапаў — трох мясцовых і аднаго амерыканскага. Пропаведзь гаварыў наш перашаіерарх. Наогул ягоныя пропаведзі разліваюцца ў мора разліўное, але гэтым разам было змястоўна, таму асмелюся прывесці абшырныя з яе вытрымкі: „Сабраліся мы тут дзеля асвячэння ўзведзенага тут Божага прыбытку. Гэта вынік вашай веры, бо вера дае чалавеку тую сілу, якая дазваляе яму перамагчы ўсе складанасці і завяршыць намечаную справу. Вы паставілі перад сабою задачу ўзвядзення Божага дому ў гэтай мясцовасці — Слохах, і гэта вялікая радасць, бо справа завершаная. Хаця няма яшчэ паліхроміі, аднак ёсць магчымасць здзяйснення еўхарыстыі, якая асвячае свет. Кожны хрысціянскі храм узводзім дзеля здзяйснення ў ёй еўхарыстыі, асвячаючай прысутнага ў ёй чалавека, які прымае цела і кроў Хрыстову, а пасрэдніцтвам асвечанага чалавека асвячаецца цэлы свет. У нас, праваслаўных, еўхарыстыя мае касмічны характар. Дзе б яна ў свеце не здзяйснялася, у яе такі маштаб. Таму ўзводзім Божыя дамы дзеля здзяйснення еўхарыстыі да канца свету паводле волі нашага Збавіцеля Ісуса Хрыста. Сёння вялікая радасць у Слохах, Сямятычах і ва ўсёй нашай Царкве, бо асвячэнне новага Божага прыбытку радуе ўсю грамадскасць. Гэтую радасць мацуе тое, што толькі Бог кіруе нашымі лёсамі і Ён знае адмысловы час, каб паказаць сваю моц, сваю ўсеагульную прысутнасць. І з’яўленне ў нас, у нашай краіне рэліквій святой Марыі Магдаліны і часткі Крыжа Гасподняга з’яўляецца найвышэйшым Божым дарам нашай Айчыне, усяму нашаму народу і нам, праваслаўным, асабліва. Сярод нас, у гэтым храме, які мы сёння асвячаем, прысутнічае заступніца — святая Марыя Магдаліна, бо дзеля яе ўшанавання мы ўзводзілі гэты храм. Святая Марыя Магдаліна з’яўляецца вястункай Хрыстовага ўваскрэсення. Хрыстос, па-за Багародзіцай, ёй першай паказаўся ўваскрэслым, тым, які перамог смерць і дараваў усім вечнае жыццё. Яна дакранулася да Хрыста і гэтая яе рука ёсць між намі. Пакланяючыся ёй мы дакранаемся да самога Збавіцеля, які ўваскрос дзеля нашага заўсёднага, вечнага жыцця. Гэта асаблівыя гонар і радасць вам, бо спаткалі яны толькі вас; і вы, людзі веры — духоўныя і прыхаджане — павінны сабе гэта глыбока ўсвядоміць. Гэта дар, які Бог даруе чалавеку дзеля ўсведамлення і прапаведавання — так як Марыя Магдаліна — уваскрэслага Хрыста свету. Праваслаўе з’яўляецца пастаяннай, вечнай пасхай. Прыгадайма толькі святога Серафіма Сараўскага, які штодзённа кожнага каго спаткаў, вітаў словамі „Хрыстос уваскрос”. Такая наша вера, якую прапаведуем свету, і таму Бог здзяйсняе вялікія цуды. Ніхто з нас не спадзяваўся, што гэта здзейсніцца — гэта Ягоная воля, а мы толькі інструментам у Ягоных руках, Ён кіруе светам і кіруе намі. Схіляем свае галовы і калені перад веліччу і мудрасцю Божай і дзякуем за той дар, які дараваў нашай Царкве, нашай Айчыне і вам усім. Зараз асвяцім прастол, ускладаючы ў ім рэліквіі святых віфлеемскіх дзетак, першых мучанікаў за Хрыста. І яны будуць на кожны водгалас званоў клікаць вас на еўхарыстыю. Хачу падзякаваць Богу за гэты дзень, Багародзіцы, усім святым, Марыі Магдаліне, мучанікам холмскім і падляшскім. Дзякую ўсім, хто ініцыяваў гэтую пабудову і хто яе будаваў і завяршае. Сардэчна ўсіх прысутных тут вітаю. Асабліва горача вітаю ардынарыя Драгічынскай дыяцэзіі ўладыку Пікуса і жадаю Вам, каб Бог дапамагаў Вам весці вернікаў у Божае царства. Вітаю таксама дасюлешняга біскупа Антонія Дыдыча, з якім нам выдатна складвалася супрацоўніцтва. І ўсіх вас, браты і сёстры, горача віншую з гэтым радасным днём”.



Помнік пабітым гітлераўцамі аднавяскоўцам

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| BARTOSZUK ANDRZEJ | LAI | 52 | KICZKO JAN | L | 37 |
| BARTOSZUK MAKSYM | L | 34 | KRAWCZUK ZOFIA | L | 60 |
| BUCHOWIEC PAWEŁ | L | 32 | PALUSZCZYK KONSTANTY | L | 24 |
| CZYRYNDA ANDRZEJ | L | 26 | PYZOWSKI ALEKSANDER | L | 93 |
| CZYRYNDA BARBARA | L | 68 | PYZOWSKA ELŻBIETA | L | 70 |
| CZYRYNDA PIOTR | L | 22 | PYZOWSKI PAWEŁ | L | 21 |
| CZYRYNDA WŁADYSŁAW | L | 26 | PYZOWSKI WŁODZIMIERZ | L | 29 |
| GUMIENIAK MIKOŁAJ | L | 29 | PYZOWSKA EUFRUDZYNA | L | 80 |
| GUMIENIAK PIOTR | L | 20 | PROKOPIUK JAN | L | 39 |
| GUMIENIAK SZYMON | L | 36 | PROKOPIUK MARIA | L | 39 |
| GOŁĄB ALEKSANDER | L | 51 | PROKOPIUK PIOTR | L | 7 |
| GOŁĄB DANIEL | L | 70 | PIETRUCZUK ANTONINA | L | 70 |
| GUMIENIAK JULIAN | L | 50 | PIETRUCZUK ANTONINA | L | 34 |
| GUMIENIAK WŁADYSŁAW | L | 45 | PIETRUCZUK DYMITR | L | 65 |
| GAWRYLUK ZOFIA | L | 23 | PIETRUCZUK JAN | L | 7 |
| GAWRYLUK ZOFIA | L | 60 | PIETRUCZUK JULIANNA | L | 70 |
| JURCZUK ANDRZEJ | L | 39 | ROMAŃCZUK AGATA | L | 70 |
| KARPIUK ANDRZEJ | L | 29 | ROMAŃCZUK ALEKSANDRA | L | 28 |
| [illegible]GORZ | L | 29 | ROMAŃCZUK PIOTR | L | 34 |
| SIDORCZUK JAN | L | 39 | SIEMIENIUK IGNACY | L | 65 |
| KARPIUK JAN | L | 31 | SZYSZKO JULIAN | L | 21 |
| KARPIUK JÓZEF | L | 21 | SZYSZKO WASYL | L | 37 |
| KARPIUK MIKOŁAJ | L | 39 | WASILUK FILIP | L | 60 |
| KARPIUK NINA | L | 19 | WASILUK JAN | L | 35 |

Мерапрыемства, з майго пункту гледжання, было зладжана выдатна, арганізатары яго шмат напрацаваліся. Царкоўны пляц быў раўнютка выкашаны. Кветкі і іншая расліннасць, якая ў будучыні мае ўпрыгожваць наваколле царквы, карпатліва захілены ад пустазелля. Агароджа царквы салідная. Ды і сам уваход у царкву нагадвае іканастас — ён троедзверны. Гэта ў той дзень вельмі паспрыяла спраўнаму прыкладанню вернікаў да рэліквій: аднымі бакавымі дзвярмі яны ўваходзілі і плаўна выходзілі другімі. Побач царквы быў устаноўлены вялікі білборд, на якім вернікі маглі аглядаць абрад асвячэння іхняга храма. Крыху цікавіўся я ў тамашніх людзей, хто задумаў прысвяціць іхнюю царкву святой Марыі Магдаліне, але яны ўпэўнена гэтага не ведалі, толькі выказвалі здагадку, што задума гэтая ад настаяцеля Сямятыцкага прыхода а. Андрэя Якімюка.

Яшчэ слоў пару пра заступніцу новай царквы. Евангелісты пісалі галоўным чынам пра навучанне Ісуса Хрыста, менш дбайна ставячыся да фактаў. Таму пра шматлікія падзеі, што адбыліся ў Святой Зямлі два тысячагоддзі таму, весткі недакладныя і могуць быць тлумачаны па-рознаму. Не абмінулі гэтыя хібы і Марыі Магдаліны, якую, узіраючыся ў кананічныя евангеллі, па-рознаму бачаць, напрыклад, праваслаўныя і каталіцкія тэолагі. Першыя з іх пасля евангельскіх падзей пасяляюць святую ў Эфесе ў Малой Азіі, а другія пераносяць яе ў Правансію, што на поўдні Францыі. Больш шырокую ролю адводзяць ёй іншыя даследчыкі евангелляў, у тым ліку і некананічных. У апошніх гадах шмат шуму пра яе нарабіў амерыканскі журналіст Дэн Браўн кнігай „Код Леанарда да Вінчы”. Некаторыя даследчыкі лічаць нават, што напісала яна адно з кананічных евангелляў, карыстаючыся імем апостала Іаана. Свой погляд на біяграфію Марыі Магдаліны выказаў, між іншымі, і выдатны партугальскі пісьменнік Жазэ Сарамагу ў кнізе „Евангелле ад Ісуса Хрыста”.

Евангеллі з’яўляюцца крыніцай і шматлікіх іншых рэфлексій. Славуты аргенцінскі пісьменніх Хорхе Луіс Борхес у сваім кароткім эсэ „Хрыстос на крыжы” так меркаваў: „Ён бачыць царства, якое, магчыма, чакае яго і тую, з якою ён зблізіцца не змог. І нічога яму невядома пра тэалогію і гнастыцызм, загадкавую Тройцу, саборы, брытву Акама і літургію, пра пурпурныя вопраткі і мітры, пра інквізітараў і кроў ахвяр, пра жахлівых крыжаносцаў, Жанну д’Арк і папаў, асвячаючых зброю”. Хто ведае, ці сам Борхес не заблытаўся ў евангельскіх лабірынтах, хто ведае, ці вера не бліжэй праўды ад асэнсоўваючых свет нашых сэнсараў: зроку, слыху ці дотыку. Хто ведае, ці Хрыстос не прадбачваў, што дзеля распаўсюду Ягонага навучання будуць патрэбны суб’екты з іерархічнай структурай і прапаведніцкай базай, адным з элементаў якой становіцца царква ў Слохах-Аннапольскіх.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Нараўчанскія чыгуначнікі; другі справа ў другім радзе Аляксей Сухадола — загадчык чыгуначнага адрэзка Нараўка

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. V)

## Успаміны Уладзіміра КЛІМЮКА, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.

Напярэдзе савецкіх войск ішлі мінёры-разведчыкі, але не ўсюды яны маглі дайсці. Апасаўся я савецкіх партызанаў, якія маглі прычапіцца да мяне, што паехаў падтрымліваць ворага сваёй працай заміж далучыцца да іх і поплеч ваяваць з ворагам, што паскорыла б вызваленне нашай зямлі з-пад нямецкай акупацыі. Былі ў мяне арыгінальныя дакументы аб працы ў Тыльзіце і Ольштыне. Бывала, што ўцекачоў лавілі немцы, але абыходзіліся з імі памяркоўна — атрымлівалі яны невялікія кары ды здаралася, што вярталіся да сваіх нямецкіх гаспадароў з засцярогай, што ў выпадку паўторных уцёкаў будзе пагражаць смяротнае пакаранне.

Перад надыходам фронту ўся вёска выехала фурманкамі на выспу сярод балот за чыгуначную лінію з Нараўкі ў Свіслач. Узялі з сабою крыху харчоў, вопратку і буйнейшую жывёлу. Меншая жывёла асталася на гаспадарках пад наглядам старэчаў і жанчын. Выспа знаходзілася каля двух кіламетраў ад вёскі, у зарасніках, куды вяла балотная дарога. Каровы і коні пасвіліся на лузе, а мы зрэдчас распальвалі вогнішча каб нешта зварыць; з гэтым найгорш было бацькам з малымі дзецьмі. Аднак не былі мы там доўга — каля трох дзён. Апошняга дня бачылі, як паравоз цягнуў некалькі вагонаў. Немцы тунэлі і масты мініравалі і ўзрывалі, а рэйкі рвалі адмысловым спосабам. Быў вялікі грукат, калі яны ўзрывалі чыгуначны мост на Нарве каля Сямяноўкі.

На другі дзень на нашу выспу завіталі савецкія разведчыкі, але не было калі радавацца з імі вызваленнем, не было ў іх часу, ім трэба было ачышчаць тэрыторыю ад немцаў. Дайшла да нас вестка, што ў вёску завіталі чырвонаармейцы і маюць там начаваць. Вярнуліся мы з выспы ў вёску ўзрадаваныя, што вёска ўцалела, не было баёў і ахвяр з абодвух бакоў. Саветы доўга не забавіліся, пасля некалькіх дзён ад'ехалі самаходамі і на конях. За фронтам ехалі вайсковыя абозы на фурманках па непраезных для тэхнікі дарогах.

Калі фронт аддаліўся на некалькі дзясяткаў кіламетраў, а рух савецкага транспарту па дарогах паменшаў, рашылі мы вярнуцца фурманкай у свой дом, што астаўся на станцыі Нараўка. Вярталіся бадай у другой палове ліпеня — дакладнай даты не помню. Нашы кватаранты выбраліся спакойна, без спешкі, ды і мы іх не падганялі — не іх віна, што так склаўся іхні лёс. Было відаць, што кватарантам нашай і суседняй хат дакучала сумленне. Яны ведалі, у якіх умовах я жыў па-суседску ў спадарства Лашэўскіх і не спагадалі мне ні харчамі, ні словам, ухіляліся спаткацца са мною. А маглі ж запрасіць мяне на сціплы пачастунак, пагутарыць. А я не нахабнічаў у сваю хату, бо за такія паводзіны немцы маглі б адправіць мяне ў цяжкі лагер. Кватаранты думалі, што немцы перамогуць саветаў і яны спакойна ў нашай хаце астануцца. Бог, аднак, справядлівы і разбурыў іх нікчэмныя летуценні.

У канцы ліпеня стала фармавацца новая адміністрацыя ў гмінах, гарадах і на чыгунцы. Служба руху працавала па ранейшай завядзёнцы, але не было пуцявой службы. Спадар Аляксей Сухадола з Сушчага Барка быў выдатным спецыялістам, бо раней працаваў пуцеабходчыкам. Чыгуначныя ўлады даверылі яму пасаду загадчыка чыгуначнага адрэзка Нараўка. Ягонай задачай быў як мага хутчэйшы рамонт пуцей дзеля ўзнаўлення руху цягнікоў. Ён набіраў рабочых на працу і я 1 жніўня 1944 года падаў заяўку на працу простым рабочым. Паколькі за мною была сямікласная адукацыя, пасля года мяне перавялі ад фізічнай працы на канцылярскую работу.

Яшчэ слоў пару пра ваенны лёс маёй сям'і. У 1942 годзе немцы загадалі жыхарам вёскі Тарнопаль цягам дзесяці дзён раскідаць свае будынкі і перасяліцца ў суседнія вёскі. Мае бацькі перабраліся ў Стары Двор каля Лукі, але неўзабаве немцы загадалі і Стары Двор пакінуць ды пашукаць сабе іншага месца жыхарства. Бацька рашыў перасяліцца да сваёй сям'і па маці ў вёску Шымкі, да Садоўскіх, дамовіўшыся на гэты конт з імі. Кватэра, як на той час, была нядрэнная, але найгорш было з пашай каню і карове — дабытак трэба было штодзённа ганяць на пашу за некалькі кіламетраў. Бацька не мог вытрываць такой сітуацыі і падаўся ў адлеглую адтуль за чатыры кіламетры сваю родную вёску Цісоўка і там дамовіўся са спадаром Лешчуком стаць ягоным кватарантам. Людзі спачувалі высяленцам і дапамагалі ім.

Слоў некалькі аб чыгунцы. Пра чыгунку шмат я даведаўся ў дзіцячыя гады з расказаў майго бацькі. Чыгуначную лінію Седльцы — Ваўкавыск — Вільня пачалі будаваць у 1902 годзе. Мой бацька і жыхары навакольных вёсак вазілі фурманкамі пясок на насып; будавалі два пуці. Верхняе палатно мела звыш дзесяці метраў шырыні, а ніжняе звыш дваццаці метраў. Лінію будавалі амаль прамалінейна, дугавін было мала і так яна пралягала цераз балоты, лугі, рэкі, узвышшы. Насып пуці каля рэк Нарва і Нараўка меў звыш пяці метраў вышыні і некалькі кіламетраў працягласці. Фурманкамі навозілі мільёны кубаметраў пяску. На верхняе палатно клалі насычаныя сасново-дубовыя шпалы, а на іх клалі рэйкі вырабленыя ў фабрыцы Крупа ў Германіі; рэйкі мелі даўжыню 10,67 метра. На рэйках былі пазначаны завод і год вырабу. На пуцях будавалі пераезды для дарог перасякаючых пуці, пераважна кожныя чатыры кіламетры, але бывалі і гусцей. Побач пераездаў будавалі домікі для сем'яў чыгуначных старажаў. А пры некаторых пераездах ставілі шматсямейныя домікі, г.зв. кашаркі, у якіх жылі стораж, пуцявы майстар і чыгуначнікі. Майстар меў брыгаду з некалькіх рабочых для ўтрымання пуці на некалькікіламетравым адрэзку, называным дзялкай. У стоража быў расклад язды пасажырскіх і таварных цягнікоў і яго абавязкам было закрываць шлагбаўмы на пераездзе; пасля праезду поезда ён тыя шлагбаўмы паднімаў. Рух цягнікоў быў невялікі: тры цягнікі з Варшавы ў Вільню і столькі ж назад у суткі ды адзін таварны поезд, які падстаўляў вагоны пад загрузку і пасля забіраў іх з грузам. Штодзённа на станцыі Нараўка грузілі вагоны даўгоццем сасны, елкі і ліставых, а таксама метравымі балансамі, якія прывозілі фурманкамі з дзяржаўных лясоў ад Масева, Ціхаволі, Чала і іншых мясцовасцей.

Да 1939 года пры станцыі быў вялікі пляц са складам драўніны, якога кругласутачна пільнавала некалькі чалавек. Купцамі былі нараўчанскія жыды. У вагоны грузілі бутэлькі з гуты шкла ў Нараўцы. Транспартам бутэлек у спецыяльных драўляных скрынях займаліся вазакі з Гарадзіска. Жанчыны і мужчыны з Плянты грузілі бутэлькі са скрынак у стосы ў крытых вагонах. У канцы лістапада, перад Калядамі, прыязджалі купцы з Варшавы і скуплялі елкі рознай велічыні, а нават вярхі з шышкамі. Мы, маладыя хлопцы, таксама бегалі па лесе, высякалі малыя елачкі і прадавалі; купцы добра плацілі. Тыдзень да Каляд елкі грузілі ў вагоны ды адпраўлялі ў Варшаву і там прадавалі з вялікім прыбыткам. Штогод прыязджалі тыя самыя купцы, якія ў час скупкі кватараваліся ў мясцовых гаспадароў.

Запар з пракладваннем чыгуначнай лініі будавалі з цэглаў вакзал і вадакачку. Цэгла была вельмі моцная, у гарачыні палітураваная яйкамі. Вакзал быў двухпавярховы; ад дарогі і прывакзальнай плошчы для фурманак было два ўваходы. У пачакальню вялі прыступкі. З пачакальні былі дзверы ў білетную касу, адкуль дзяжурны руху цераз акенца прадаваў білеты, былі дзверы ў пакой дзяжурнага і загадчыка станцыі. Быў буфет, дзе можна было з'есці гарачую страву. Быў пакой для мацераў з дзяцьмі дзеля пямяшканне для пасыланага і атрымліванага багажу. З пачакальні дзверы выходзілі на пероны. Пачакальня была адкрыта ўсю ноч, бо пасажырскі поезд прыязджаў каля дзесятай гадзіны вечара з Варшавы, а ў Варшаву каля другой гадзіны ночы. Былі таксама пасажырскія цягнікі ў ранні і пасляабедні час. На другім паверсе былі тры кватэры для загадчыка і двух дзяжурных. Стрэлачнікі наймалі прыватныя кватэры, бо ўся чыгуначная абслуга станцыі Нараўка была прыезджая: ад Баранавіч, Навагрудка, Віленшчыны. Штатным чыгуначнікам плацілі добра, але простых рабочых прыніжалі, не атрымлівалі яны службовага адзення, льготных білетаў, не ахоплівала іх бясплатнае лячэнне. Ведаў я гэта ад пуцявога работніка Станіслава Скаўронскага, які з жонкай кватараваўся ў нашым малым доміку. За цяжкую работу на пуцях атрымліваў ён 2,5 злота днёўкі ўлетку, а ўзімку тры дні працаваў пры ачыстцы пуцей ад снегу, а тры дні сядзеў у хаце, бо не было працы.

Каля станцыі была вадакачка, у якую ваду бралі з рэчкі Нараўкі. Побач чыгуначнага моста стаяў жылы будынак, у якім жыў машыніст з сям'ёй, ён пампаваў ваду трубамі ў вадакачку, у якой высока былі ўмураваны два рэзервуары па некалькі тысяч літраў для вады. Ад тых рэзервуараў вялі трубы, па якіх вада цякла ў гідранты, што стаялі каля ста метраў за канцом перонаў; з тых двух гідрантаў машыністы маглі набіраць ваду ў тэндэры сваіх паравозаў. Калі паравоз выязджаў у дарогу, меў ён загружаных ад шасці да дванаццаці тон вугалю і некалькі тысяч літраў вады. У час язды вада хутчэй расходавалася чым вугаль, таму на кожнай станцыі была вадакачка. Станцыі былі адлеглыя ад сябе па некалькі дзясяткаў кіламетраў, напрыклад з Гайнаўкі да Нараўкі было дваццаць кіламетраў, а з Нараўкі да Свіслачы трыццаць. Паштовыя пасылкі ў брызентавых мяшках вазіў з Нараўкі на станцыю і назад спадар Стульгіс. Пасажыраў па той трасе, з Нараўкі да поезда і назад, вазілі фурманкамі нараўчанскія жыды. Абрам, што жыў па Аградовай вуліцы, меў прыгожага каня ды багата прыбраны воз і ён браў большую плату чым яго канкурэнт Стрыжнік, у якога конь быў слабы ды і ён сам выглядаў беднавата. Багатыя пасажыры бралі транспарт у спадара Абрама, а бедныя ў яго канкурэнта. Бывалі такія дні, што ў абодвух было поўна пасажыраў.

Да вайны мы, дзеці з Плянты, хадзілі грамадою ў нараўчанскую школу, адлеглую за чатыры кіламетры ад нашай вёскі. Зімою здараліся такія завірухі, што свету не было відаць. Жыдоўскія фурманы, якіх называлі балаголамі, ехалі санямі па чыгуначных пасажыраў, спынялі каля нас коней, а нам казалі сядаць на сядзенні і падвозілі часам ад самой Нараўкі да станцыі. Так складвалася, што калі мы канчалі заняткі ў школе, яны выязджалі да поезда. Так Абрам, як і Стрыжнік, былі нам вельмі спагадлівымі.

У 1939 годзе прыйшлі саветы і паставілі частку свайго персаналу, але большасць складалі дасюлешнія чыгуначнікі. Немцы ў 1941 годзе таксама прывезлі сваіх. Некаторыя палякі працавалі на станцыі да 1939 года, у перыяд вайны і пасля яе аж да выхаду на пенсію.

(працяг будзе)

Спісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ







# Таямнічасць, тандэт і вера

Святыя ў рэлігійным экстазе, мяккія погляды анёлаў, спакойныя ўсмешкі Божай Маці — усё гэта мяшаецца ў хаце спадара Вацлава. На століках, упрыгожаных штучнымі кветкамі, стаяць малыя алтары з Ісусам Хрыстом або Божай Маці. Усе фарфоравыя фігуркі вясёлых карлікаў ці рагатых аленяў збіраў цягам дзесяцігоддзяў. Аднак нават калі паасобныя прадметы выглядаюць тандэтна, у хаце спадара Вацлава чырвоны мухамор і макатка з Ісусам Добрым Пастырам узаемадзейнічаюць, ствараючы адну цэласць. Можа гэта таксама адзін з цудаў, у якія верыць спадар Вацлаў.

Хатка Вацлава маленькая настолькі, што чырвоныя мальвы сягаюць самога даху. У пашарэлых вокнах стаяць буйныя букеты штучных кветак. Такія заўсёды ставіла маці Вацлава, якая не жыве ўжо гадоў дваццаць. З таго часу амаль нічога тут не памянялася. Ток у сенях і пакоях, нізкія фрамугі, у якіх заўсёды схіляецца Вацлаў, у хаце няма вады.

— Як матуля жыла, я працаваў у Саколцы. Не было часу штосьці мяняць. Калі памерла, падумаў, што так павінна застацца.

Вацлаў працуе касцяловым.

— Не ўяўляю сабе жыцця без гэтай працы. Люблю пайсці, прыбраць штосьці, навесці парадак. Люблю пах касцёла. Уваходзячы, маю адчуванне, што нічога дрэннага чалавека тут не сустрэне.

Да чырвонай хусты Ісуса Хрыста спадар Вацлаў падабраў жоўтыя кветкі, якія стаяць па абодвух баках фарфоравай фігуркі. Па-над гэтым абразы Унебаўзяцця Божай Маці, святой Тарэсы і Марыі з Дзіцём. Вакол пластыкавыя чырвоныя макі, з самага пераду драўлянага століка стаяць два маленькія анёлы, якія пакланяюцца залатому крыжу. Гэта толькі невялікая частка таго, што збіраў цягам дзесяцігоддзяў спадар Вацлаў.

— Люблю абразы. Не толькі з выяўленнем святых, але і такія з прыродай. Купляю часта на одпустах або ў касцёле. Некаторыя дастаю ў падарунку ад людзей. Назбіралася крыху.

Вацлаў лічыць сябе веруючым чалавекам.

— Стараюся жыць так, каб можна было са спакоем паглядзець на святыя абразы і фігуркі. Маю часам уражанне, што позірк святога мяняецца, калі я думаю або зраблю штосьці дрэннае. Раптам твар Божай Маці становіцца такі сур'ёзны...

У спальні Вацлава хапае месца толькі на ложак і невялікі столік, які цяпер мае выгляд алтарыка, прысвечанага Божай Маці. Адна вялікая фігура і дзве маленькія, якім адкручваецца галава. Можна ў такой бутэльцы-фігурцы трымаць свянцоную ваду. Насупраць ложка святы Ян Павал ІІ з лагоднай усмешкай сядзіць пад сасною на фоне гарыстага краявіду. Гэты абраз асаблівы для Вацлава. Купіў яго пасля смерці Караля Вайтылы ў 2005 годзе ў Саколцы. Абраз павесіў у сваёй невялікай спальні так, каб прачнуўшыся, паглядзець у лагоднае аблічча святога.

— Вельмі мне падабаецца папа рымскі на гэтым абразе. Выглядае так, якім у сапраўднасці быў. Мае тут такія добрыя вочы. Вочы ў чалавека найважнейшыя.

Вацлаў абразы найчасцей купляў у Саколцы на штотыднёвым базары. Купляў раней, цяпер ужо не так. Не меў бы дзе павесіць святога, а Вацлаў не любіць, калі абраз стаіць дзесьці схаваны ў шафе.

— Для мяне няма прыгажэйшых і брыдкіх абразоў. Усе яны цудоўныя: святы Антоні — вялікі святы, цуд у Фаціме — важная падзея, Чанстахоўская Божая Маці — маю аж тры такія абразы рознай велічыні, але хачу, каб усе віселі.

На пытанне ці ў яго хатцы жыве Бог, адказвае:

— Нібыта Ён ёсць усюды, але ў маёй хаце лягчэй у гэта паверыць. Маці купіла калісь у Гародні, калі яшчэ мяжы тут не было, таксама іконы. Сказала для яе прадаўшчыца, што калі такая вісіць, той святы з табою дома. Маю некалькі. Гэтае ўсё для мяне не толькі пазбіраныя прадметы.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**




Невялікую па памерах Гайнаўку многія лічаць цэнтрам беларушчыны ў Польшчы. З большага ёсць у тым рацыя, бо паводле вынікаў перапісу насельніцтва 2002 года там ёсць найвялікшая ўдзельная вага беларусаў сярод усіх гарадоў Польшчы. Таму не дзіўна, што месціцца ў Гайнаўцы добра вядомыя далёка за межамі краіны Музей і асяродак беларускай культуры. Нягледзячы на тое, што адным Музеем беларускае жыццё ў Гайнаўцы не абмяжоўваецца, сайт гэтай культурніцкай установы дае магчымасць уявіць адметнасці тамтэйшай беларушчыны, нават калі ніколі не быў на берагах Правай Лясной.

Каб віртуальна пазнаёміцца з Музеем, варта набраць на сваім камп'ютары яго адрас у інтэрнэце — **www.muzeumbialoruskie.hajnowka.pl**. Перад намі адкрыецца даволі прыгожае выяўленне галоўнай старонкі сайта, аздобленае вывамі драўляных дошак, ручніка і дывана, акна ў сялянскай хаце. На ўсім гэтым аздабленні месціцца назва культурніцкай установы па-беларуску і па-польску, і нагадваецца, што ёй 30 гадоў. Праўда, падрубрыка „Гісторыя” ў раздзеле „Музей” нічога не распавядае аб прамінулых гадах яго дзейнасці. Яна пустая, нягледзячы на тое, што была створана не пазней за снежань 2010 года, аб чым сведчыць дата, пазначаная там. Але гэта не так важна, бо на сайце маюцца навінныя паведамленні, якія таксама пачынаюцца ад 2010 года. Знайсці іх няцяжка — з левага боку цэлага выяўлення ў самым версе. Дарэчы, стужка анонсаў навін знаходзіцца пасярэдзіне выяўлення, і калі прасачыць па датах, то абнаўляецца яна даволі часта, што сведчыць аб сапраўднай зацікаўленасці кіраўніцтва Музея ў функцыянаванні сайта.

Калі ўсё ж такі цікавы карыстальнік не пакіне спробы знайсці нешта аб гісторыі ўзнікнення Музея, то яму будзе карысна зазірнуць на старонку „Асацыяцыя”, дзе распавядаецца пра аб'яднанне, якое па сутнасці і ўвасабляе культурніцкую ўстанову. Муры Музея не значаць нічога без людзей, апантаных захаваннем яго экспанатаў, правядзеннем культурніцкіх акцый на карысць беларушчыны. Менавіта ў раздзеле „Асацыяцыя” можна прачытаць аб тым, калі яна ўзнікла і хто працуе там. Таксама толькі на старонцы „Аб Асацыяцыі” мы даведаемся пра яе галоўную статутную мэту — захаванне культурнай спадчыны беларусаў, у тым ліку праз культуру матэрыяльную, а таксама ініцыяванне і пашырэнне сучаснай культурна-адукацыйнай дзейнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Тут жа месціцца запрашэнне далучыцца да дзейнасці Асацыяцыі і стаць яе сябрам.

Пра тое, якія выставы мае Музей, можна даведацца, прачытаўшы інфармацыю з яго аднайменнага раздзела. Акрамя апісання, там знаходзяцца фотаздымкі экспанатаў, залаў, распаведы аб часовых экспазіцыях.

Раздзел „Бібліятэка” падае інфармацыю пра літаратуру, якую мае Асацыяцыя. Згодна тых звестак, у бібліятэцы ёсць багатая калекцыя кніг і спецыялізаваных выданняў, беларуская і польская літаратура — агулам 11 тысяч экзэмпляраў.

Вялікі плюс для сайта ў тым, што ён мультымедыйны. Таму, калі зайсці ў раздзел „Фільмы”, можна паглядзець, у прыватнасці, на фестывалі „І там жывуць людзі”, якія ўжо некалькі гадоў запар ладзяцца ў вёсках Падляшша.

На жаль, на сайце не без недахопаў. Ён хоць і мае беларускамоўную версію, дарэчы, як і англамоўную, чытаць там усё, за невялікім выключэннем, лягчэй па-польску. Бо па-польску пісалі людзі, а пераклад на беларускую і англійскую мовы зроблены праз Google ці падобны да яго інтэрнэт-сэрвіс.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**






## Пачынальнік беларускіх газет

# 140 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Уласава

28 жніўня 1874 г. у беларускай Вялейцы (цяпер раённы цэнтр Вілейка) нарадзіўся Аляксандр Уласаў, беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

Вучыўся ён у розных месцах — духоўнай семінарыі ў Пінску, рэальных вучылішчах у Мінску, Лібаве. Пазней скончыў політэхнічны інстытут у Рызе. У час рэвалюцыі 1905 г. уключыўся ў грамадска-палітычнае змаганне, арганізоўваў забастоўкі ў Радашковіцкім павеце, у Мінску, прымаў удзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе. Адзін з арганізатараў і актывістаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Распрацоўваў аграрную частку праграмы партыі на з'езд, удзельнічаў у партыйнай канферэнцыі ў Докшыцах. Рыхтаваў да друку газету „Наша доля”, быў рэдактарам-выдаўцом газеты „Наша ніва”. Заахвоціў да працы ў рэдакцыі Я. Коласа, Я. Купалу, З. Бядулю, Ядвігіна Ш., вёў перапіску з многімі іншымі пісьменнікамі. За публікацыі супраць самадзяржаўя не раз прыцягваўся да судовай адказнасці, у 1909 г. асуджаны на 4 месяцы зняволення. Адзін з заснавальнікаў беларускага выдавецкага таварыства „Наша хата” ў Вільні. Удзельнічаў у друкаванні беларускіх календароў, зборнікаў, кніг Я. Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., Э. Ажэшкі і іншых. У 1912 г. у Вільні наладзіў выданне сельскагаспадарчага часопіса „Саха”, у 1914 г. у Мінску — краязнаўчага часопіса „Лучынка”. Займаўся арганізацыяй выставаў.

У 1914-1917 гг. служыў у царскай арміі, быў дэлегатам з'езда жаўнераў-беларусаў Заходняга фронту, Усебеларускага з'езда 1917 г. У 1918 г. кааптаваны ў склад Рады БНР, з ліпеня быў у яе сакратарыяце. Пасля расколу Рады ўвайшоў у прэзідыум Найвышэйшай Рады БНР.

У канцы 1920 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. За спробу адкрыцця ў Радашковічах беларускай гімназіі быў арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў канцлагер у Стшалкове. На выбарах у 1922 г. абраны ў польскі сейм як беспартыйны. Цесна супрацоўнічаў з Беларускім пасольскім клубам, бараніў нацыянальныя інтарэсы заходнебеларускага насельніцтва. Адзін з актывістаў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Прымаў удзел у рабоце Беларускай сялянска-работніцкай грамады, выступаў у абарону яе кіраўнікоў на судовым працэсе 56-і. Дом Уласава ў в. Мігаўка (цяпер Маладзечанскі раён) выкарыстоўваўся падпольнікамі для пераходу польска-савецкай мяжы. Арганізатар і адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. Пад яго апякунствам у 1922-1929 гг. дзейнічала Радашковіцкая беларуская гімназія імя Скарыны.

У 1939 г. арыштаваны органамі НКВД па абвінавачванні ў „шпіёнска-правакатарскай дзейнасці”, зняволены ў вялейскай турме. Засуджаны на 5 гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры. Высланы ў Сіблаг (Новасібірская вобласць). Памёр нібыта ад „паралічу сэрца” (паводле даведкі) на станцыі Марыінск (цяпер Кемераўская вобласць, паводле іншых звестак — на этапе ў г. Арол ці ў Рэспубліцы Марый). Рэабілітаваны ў 1961 г.

Аляксандр Уласаў меў багатую бібліятэку, шмат архіўных матэрыялаў пра „нашаніўскі” перыяд, нацыянальную асвету ў Заходняй Беларусі. У 1930 г. пісаў успаміны „З майго жыцця”. Рукапісная спадчына Уласава зберагаецца ў Літаратурным музеі Я. Купалы ў Мінску. Помнікаў і мемарыяльных шыльдаў гэтаму дзеячу няма.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскія пажарнікі адзначылі свята

З пачаткам лістапада мінулага года Таварыства самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» пачала рэалізаваць партнёрскі трансгранічны праект «Супольна ахоўваем Белавежскую пушчу». Вядучым партнёрам праекта з'яўляецца Таварыства самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча», якое аб'ядноўвае паасобныя самаўрады Гайнаўскага павета, у тым ліку і Чаромхаўскую гміну, а таксама дзве гміны з Бельшчыны: Орлю і Бельск-Падляшскі. Айчыннымі партнёрамі з'яўляюцца Павятовая камендатура Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Гайнаўцы і гміны, а замежнымі — Брэсцкая і Гродзенская абласныя ўстановы Міністэрства па справах надзвычайных сітуацый Рэспублікі Беларусь.

Праект атрымаў фінансавую падтрымку Еўрасаюзнага інструмента суседства і партнёрства ў рамках праграмы Трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна на 2007-2013 гады.

Вартасць праекта — амаль 4,4 млн. еўра, у тым ліку аж 90% вартасці складае еўрасаюзная датацыя.

5 чэрвеня 2014 г. у Гайнаўцы адбыліся павятовыя святкаванні Дня пажарніка. На той жа ўрачыстасці пажарнікам з вёскі Чаромхі былі ўручаны ключы да новага выратавальна-вогнетушыцельнага аўтамабіля. Лакальная імпрэза, прысвечаная ўручэнню акта перадачы аўтамабіля пажарнікам, была арганізавана 8 жніўня 2014 г.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі старшыні Рады павета Мікалай Міхалюк і Рады гміны Надзея Суліма, дырэктар Таварыства Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук, намеснік павятовага каменданта Пажарнай аховы малодшы брыгад'ер Юры Пятрочук, намеснік начальніка Выратавальна-вогнетушыльнай часці ў Гайнаўцы Кшыштаф Лянгэ, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Чаромсе-Станцыі а. Юры Пліс, камендант пагранзаставы ў Чаромсе маёр Анджэй Кананьчук, кіраўнік пастарунка паліцыі аспірант Рафал Пашка, прадстаўнікі гмінных установаў, радныя і кіраўнікі гмінных службовых адзінак ды солтысы. Цырымонію ўпрыгожылі духавыя аркестры — Павятовай камендатуры пажарнікаў з Гайнаўкі пад кіраўніцтвам капельмайстра Кшыштафа Раманюка і з Чаромхі-Станцыі пад кіраўніцтвам Мікалая Гарадкевіча.

Войт Юры Шыкула пасля прывітання і прэзентацыі гасцей сказаў:

— Сённяшняя ўрачыстасць з'яўляецца важнай падзеяй не толькі для жыхароў вёскі, але і ўсяе гміны. Гэта перш за ўсё незвычайная падзея для пажарнікаў, якія будуць карыстацца навейшым выратавальна-вогнетушыльным аўтамабілем. Быць пажарнікам — гэта незвычайны выклік, гэта бескарыслівая служба іншым, безупынная праца над сабою і ўдасканальванне ўласных умеласцей. Гэта дзякуючы вашай бязмернай і самаахвярнай працы ў службе пажарная справа становіцца больш сучаснай і ўсебаковай, ды карыстаецца даверам грамадства.

І ў заканчэнні дабавіў:

— Пажарнікам з вёскі Чаромхі жадаю, каб выкарыстоўвалі атрыманыя на вучэбных занятках веды. А калі прыйдзецца выехаць на вогнетушыльную акцыю, дык жадаю вам бяспечных вяртанняў, каб святы Фларыян заўжды наглядаў за вамі.

Войт Юры Шыкула ўручыў важаку чаромхаўскіх пажарнікаў Міраславу Кердалевічу акт перадачы выратавальна-вогнетушыльнага аўтамабіля, а айцец Юры Пліс яго пасвяціў. Затым ахвотныя маглі паглядзець унутранае абсталяванне пажарнай машыны, а малечы — нават сесці за рулём.

У мастацкай частцы выступілі пажарныя духавыя аркестры з Гайнаўкі і Чаромхі-Станцыі, а таксама мясцовыя пявунні ў кампаніі адзінага спевака Грышы Боцюка.

У час імпрэзы можна было пакарыстацца гарачай тушонай капустай з каўбаскай, ды гарохавым супам.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

Прэзентацыя духавога аркестра і пажарнага аўтамабіля

Войт Юры Шыкула чытае акт перадачы

# 31.08 — 06.09

**Баран (22.03. — 20.04.)** 2-6.09. дасі хутчэйшы бег рэалізацыі доўгатэрміновых планаў, будзеш у знакамітай форме. У пачуццях больш цярплівасці. У першай дэкадзе месяца тваё кампанейскае жыццё набярэ размаху. Прыбудзе больш абавязкаў на працы. Верасень гэта добры месяц на сур'ёзныя фінансавыя інвестыцыі.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Выкажыся адказнасцю і разумна вырашай, бо інакш сабе зашкодзіш. У пачуццях час важных дэкларацый. Аж да 23.09. спрыяе табе Сонца, будзеш у добрай форме; задбай аб выгляд і гардэроб. Змяні спосаб харчавання — дасі рады і з тым, каб пакінуць кепскія звычкі. Справішся ў першай палове месяца з усімі абавязкамі. У верасні шмат залежыць ад таго, як складзеш адносіны з людзьмі.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Абдумана інвестуй у пачуцці. Слухай аргументаў іншых. Заранёў пастарайся пазбегнуць канфліктаў у асяроддзі знаёмых і радні, якая будзе патрабаваць больш увагі з твайго боку. На аперацыю ідзі 1 верасня. Пасля 5.09. папраўляй штосьці ў сваім атачэнні.

**Рак (23.06. — 23.07.)** У пачуццях час уздыму і важных рашэнняў. На працы пільнуй свайго. З 5.09. (да 9.09.) будзеш творчы, знойдзеш выхад з кожнай сітуацыі, што будзе мець уплыў на стан тваіх фінансаў. Але ўвесь верасень не насі з сабою большых наяўных грошай, ашчаднасці пакладзі ў банк.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Дбай аб красу, асабліва перад 5.09. Выдатны настрой і моцная воля. Можаш цяпер ажыццяўляць свае новыя задумы. Гуляй і карыстайся жыццём. Гэта знакаміты момант зарадзіць акумулятары! У пачуццях прыемнасці. Калі адазвуцца старыя захворванні, абавязкова схадзі да доктара. Аж да 23.09. знакаміты час паэксперыментаваць з добрай дыетай. Верасень добры для цябе для падпісвання дамоў і ўваходжання ў суполкі.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Будзеш выглядаць фантастычна і так сябе адчуваць. Самаўпэўненасць і лірычны настрой. 5 верасня завітае ў твой знак патронка кахання Венера. Будзеш уражлівы, нават плаксівы, сантыментальны. Самотная Дзева лёгка будзе наладжваць кантакты; няхай выкажацца ініцыятыўнасцю, і зацікавіцца ёю хтосьці асаблівы. Пануй над нервамі (на рабоце навала абавязкаў!), арганізуй працу. І ашчаджвай.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Спраўнае наладжванне кантактаў, падпісванне дамоў. У пачуццях трымай вочы вакол галавы, але без спешкі. У спараваных Шаляў можа быць ахвота пасвавольнічаць, ды пільнуйся! З аптымістычнымі і раднымі сябрамі перастанеш думаць аб праблемах, а возьмешся за іх вырашэнні. У лячэнні нават невялікая змена прынясе карысці. У першай палове верасня будзеш стомлены, можаш нават легчы ў ложак (адрэагуй стрэс музыкай).

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Дасканалая форма. Сіла і энергія. Зможаш шмат, а за новыя мерапрыемствы возьмешся жвава і з энтузіязмам. Але глядзі, куды інвестуеш пачуцці, каб потым не клеіць зламанага сэрца. У Скарпіёнаў у пастаянных парах месяц зразумення і гармоніі. Дома выкажыся ініцыятывай, бо запануе ў ім хаос. Адкрыйся на неканвенцыянальныя спосабы лячэння. Карысны зварот у прафесіі, зрэалізуюцца нават справы навырост.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Спакусы і прыгоды ў пачуццёвым жыцці. А розум? Варта яго захаваць пры выдаванні грошай. Старайся як найбольш часу праводзіць з сям'ёй. Здароўе і настрой без змен, дарэчы, не будзеш мець часу імі займацца. 5-9.09. будзеш мець добрую руку да інтарэсаў і грошай, будзеш спрытны і інтэлігентны.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Адчуць сябе як у першыя дні кахання? Чаму не, але ці варта рызыкаваць?.. Лепшыя эмоцыі без рызыкі. Можа, схочацца табе змяніць месца жыхарства (вынікі могуць задзівіць). Дасканалая форма амаль увесь верасень. Не хвалі сябе сам. Возьмешся за вялікія выклікі, але толькі за вялікія грошы. На працы пакажаш свае перамогі ад 2 ад да 29 верасня! Будзеш асабліва спраўны, маланкава дзейнічаючы, так дырыжор, як і саліст!

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** У пачуццях шаленства і сюрпрызы. У фінансах розум і абачлівасць. Не расчаруюць старыя сябры. Не адкладвай лячэння. На рабоце працавіта і з прызнаннем. 5-9.09. могуць у пары паявіцца непаразуменні з-за зайздрасці і недахопу ўмеласці слухання.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Як халодна вырашаць, калі гараць сэрца і галава?.. Ад таго будзе залежаць тваё шчасце. Дома і сярод сяброў праблемы вырашай па чарзе. Ад 5 аж да 29.09. будзеш вельмі добра дагаворвацца з людзьмі, гармонія з партнёрам. Але агульна лепшае здароўе чым настрой. На працы пара табе выйсці перад шэраг!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | ■ | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | ■ | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | 22 | 23 | 24 | 25 | ■ | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | ■ | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

1. рака ў Разані = 11 _ 23 _ 24 _;
2. карнік, мучыцель, прыгнятальнік = 32 _ 9 _ 10 _;
3. густая страва са звараных круп = 40 _ 33 _ 39 _ 36 _;
4. самка ката = 8 _ 6 _ 7 _ 2 _ 3 _;
5. хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых (*Thuja*) = 16 _ 18 _ 22 _;
6. псеўданім югаслаўскага прэзідэнта Іосіфа Броза = 28 _ 29 _ 30 _ 31 _;
7. не сваяк = 37 _ 38 _ 19 _ 21 _ 20 _;
8. атрута = 34 _ 35 _;
9. рэчыва, што трапляе з міскі ў рот = 4 _ 5 _ 41 _;
10. паглыбленне ў зямлі = 25 _ 26 _ 27 _;
11. круты роў, лагчына = 1 _ 17 _;
12. колішні натуральны падатак у Сібіры і Паволжы = 14 _ 15 _ 13 _ 12 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Юрта, звон, дзічка, Пагоня, сук, дукат, Таганрог, яма, ступа, Прусія.

Рашэнне: **З дурнога куста і ягада пуста**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# ПАЗБАЎЛЕННЕ

**Гэта адна з асноўных падзей сёлетняга выпуску беластоцкага фестывалю «Усход культуры — Іншае вымярэнне»: выстава «Пазбаўленне» з удзелам артыстаў з краін Усходняга партнёрства, у тым ліку, вядома, з Беларусі. У агульнай складанасці да ўдзелу ў ім запрасілі 27 мастакоў з 11 краін. Гэта працяг і развіццё мастацкіх мерапрыемстваў з удзелам мастакоў з краін Усходняга партнёрства, пачатых галерэяй «Арсенал» у 2011 годзе выставай «Падарожжа на Усход», якая была праведзена з нагоды старшынства Польшчы ў ЕС. Па задумах арганізатараў выставы і спадарожных ёй падзей, найбольш важным пытаннем закранутым на ёй гэта міграцыя і яе палітычныя, сацыяльныя, эканамічныя і псіхалагічныя аспекты.**

Натхненнем для выставы з'яўляецца назіранне сацыяльнай сітуацыі ў краінах былога ўсходняга блока, але і агульнаеўрапейскі дыскурс па тэме Усходняга партнёрства. Гэтыя пытанні здаюцца быць асабліва важнымі ў перспектыве Шэнгенскай зоны.

Арганізатары ва ўлётцы з гэтай нагоды напісалі: «Нельга не заўважыць супярэчнасцей і няроўнасцей, якія вынікаюць з правіл: цяжкасці ў атрыманні віз, высокія аплаты, доўгі перыяд чакання. Кошт такой польскай візы, напрыклад, для грамадзяніна Арменіі ў дваццаць разоў вышэйшы, чым кошт армянскай візы для паляка. Гэтыя адрозненні і біюракратычныя недарэчнасці ставяць нашы дэкларацыі супрацоўніцтва пад пытанне. Прадметам выставы з'яўляюцца не толькі мытныя працэдуры і дыскамфорт пры перасячэнні межаў. Рашэнне аб эміграцыі часта прыводзіць да рэвалюцыйных змен у асабістым жыцці. Пераезд у іншую краіну — незалежна ад таго ці з-за добраахвотнага рашэння, ці вымушаны — цягне за сабой пераазначэнне сябе як грамадзяніна, сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, асяроддзя пражывання, мовы. Часта спалучаецца са стратай або абмежаваннем грамадзянскіх правоў, разлукай з блізкімі, канфліктам ідэнтычнасці, моўнымі бар'ерамі, зніжэннем сацыяльнага статусу. Гэта праблема добра вядомая ў Польшчы і краінах былога Савецкага Саюза. Гэта таксама пытанне, якое непасрэдна, але з іншага пункту гледжання, кранае Заходнюю Еўропу, заліваную імігрантамі з розных частак свету.

Эканамічная міграцыя, пошук палітычнай або духоўнай волі, гонка за марамі аб лепшым жыцці, уцёкі ад праследу, перасяленне, дэпартацыя — гэта адны з многіх аспектаў міграцыі, да якіх адносяцца запрошаныя мастакі.

Выстава «Пазбаўленне» будзе суправаджацца дадатковымі мерапрыемствамі: дыскусіяй з удзелам грамадскіх і палітычных актывістаў, куратараў, мастакоў, сацыёлагаў і назіральнікаў грамадскага жыцця; перфарматыўныя дзеянні, майстэрні, канцэрт, даклад. Для ўдзелу ў выставе былі запрошаны мастакі з Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Чэхіі, Францыі, Грузіі, Ірана, Малдовы, Польшчы, Расіі і Украіны, якія ў сваёй працы неаднаразова мелі справу з пытаннямі ідэнтычнасці, сацыяльных праблем, у тым ліку з пытаннямі бежанцаў, мігрантаў, парушэння правоў чалавека, якія жывуць ніжэй пражытачнага мінімуму. Некаторыя з іх — самі ўцекачы, так што гэтыя пытанні добра вядомыя ім і ставяцца яны да іх вельмі асабіста.

Выстава «Пазбаўленне» будзе працаваць ад 29 жніўня да 6 лістапада 2014 г. у галоўнай сядзібе галерэі «Арсенал» (вул. Адама Міцкевіча, 2), у старой электрастанцыі (вул. Электрычная, 13) і ў публічнай прасторы горада, важнай для мастакоў, якія хочуць мастацка выказацца па-за ізаляванымі, стэрыльнымі, галерэйнымі і музейнымі інтэр'ерамі. Моніка Шэўчык, кіраўнік галерэі «Арсенал» сказала «Ніве»:

— Ва «Усходзе Культуры» мы ўбачылі шанц паўтарыць ідэю, якую мы мелі пры арганізацыі «Падарожжа на Усход», суперпрафесійнага праекта, які мы зрабілі тры гады таму. Відавочна наш поспех спрычыніўся да таго, што на Усходзе ўспрымаемся ў якасці прафесійнага партнёра. Тры гады таму я баялася, што гэта будзе толькі аднаразовы праект, што мы сігналізуем нашу цікавасць да мастацтва ўсходніх суседзяў, і што ён будзе прыняты як несапраўдны. А там патрабуюць ад нас пастаяннай увагі. Мы хочам паказаць, што будзем працягваць кантакты. Сёлетні «Усход культуры» адкрыў такую магчымасць, дзякуючы прыцягненню вялікіх фінансавых рэсурсаў.

Падкрэсліла:

— Тэма міграцыі, якую мы абралі, вельмі важная для ўсіх нас, але асабліва для тых людзей, на Усходзе, у тым ліку краін Усходняга партнёрства, і надзвычай важная ў кантэксце Беластока. Гаворка на самой справе аб становішчы бежанцаў, палітычным бежанстве, ці, хутчэй, звязаным з высокай ступенню прыгнёту. Не думаем тут пра падарожнічанне па свеце, але пра неабходнасць, уцёкі, сітуацыі пагрозы, але і пра сітуацыі, звязаныя з ідэнтычнасцю, мысленнем пра сваё месца ў свеце і ў краіне як такой.


Вольга Рыбчынская (справа) і Ганна Самарская перад мастацкай галерэяй «Арсенал»

Аб беларускім матыве расказвала нам:

— Гэты праект папоўніўся дзякуючы фантастычнай працы Аляксандра Камарова з Беларусі, які доўга жыў у Амстэрдаме, а цяпер жыве ў Берліне. Гэта выдатны візуальны мастак, які займаецца відэа, адзін з самых вядомых у свеце беларускіх мастакоў. Ён скончыў Акадэмію мастацтваў у Познані. Ягоная праца, якая будзе прадстаўлена ў Беластоку, гэтага відэа, зробленае з беларусамі, пражываючымі ў Нідэрландах. Датычыць мовы. Аляксандр запрашае беларусаў у тамашні батанічны сад і ў прысутнасці экзатычных раслін з неасіміляванымі ў Нідэрландах лацінскімі назвамі — так як і яны пераселенымі з іншых рэгіёнаў — гаворыць аб тэарэтычна роднай мове, то-бок, беларускай мове, таму што не ўсе ў Беларусі ёю карыстаюцца. Пра сваё стаўленне да яе. Гэтыя беларусы там неабавязкова гавораць на галандскай, і нават на англійскай мовах. У той жа час у многіх ёсць праблемы з роднай — беларускай. Такім чынам яны маюць праблемы з сувяззю. Яны ўтвараюць свайго роду новы слоўнік, цалкам умоўны, абстрактны, мета-мову, якую Аляксандр Камароў выдаў у выглядзе кніжачкі, мастацкай працы, якую мы друкуем. Уся яго праца мне падалася важнай у кантэксце пошуку свайго месца і гэта ёсць тэмы, якія асабліва гучаць у Беластоку.

У рамках праекта «Пазбаўленне» таксама адрэкамендуецца беларуска Аксана Гурыновіч, якая таксама жыве ў Берліне, з праектам «Genius loci»:

— Гэта ўсталёўка наконт навязанай, вымушанай эміграцыі габрэяў у Беларусі і Расіі.

Перад адкрыццём выставы і спадарожных мерапрыемстваў у лісце бежанцам, імігрантам таксама з Беларусі, ад імя галерэі яе кіраўнік звярнулася, спасылаючыся на публічную дыскусію 30 жніўня (пачатак а гадзіне 12-й, галоўная сядзіба галерэі «Арсенал»): «Мы вельмі зацікаўлены, каб мела яна адкрыты характар для публікі. Залежыць нам на вашым удзеле ў дыскусіі» і далей: «У суботні вечар мастакі з Грузіі (Ніні Палавандзішвілі і Дата Чыголашвілі) арганізуюць «Міжнародную ноч ежы». Да сваёй акцыі ўцягнулі ўсіх мастакоў, якія ўдзельнічаюць у выставе, з просьбай прынесці з сабою кулінарнае смакоцце са сваёй краіны, якое будзе выкарыстоўвацца для падрыхтоўкі інтэрнацыянальных страў. Асноўнай мэтай гэтага праекта з'яўляецца сумеснае публічнае варэнне, да якога грузінскія мастакі запросяць перш за ўсё публіку. Заадно мастакі, як і мы запрашаем усіх да агульнага прыгатавання ежы і агульнага стала. Вядома, гэта будзе выдатная магчымасць пазнаёміцца і даўжэй паразмаўляць. Мы вельмі хочам, каб вы ў гэты вечар былі нашымі гасцямі. Чакаем вас. Спадзяемся, што будзеце жадаць прыняць удзел у праграме, якая суправаджае выставу «Пазбаўленне». Вельмі нам залежыць, каб вы адчулі сябе гасцямі гэтых падзей. Гэтая праграма створана для вас і з думкай пра вас. Разлічваем на вашу прысутнасць. Сардэчна запрашаем!»

У ходзе публічнай дыскусіі прымуць удзел, сярод іншых, мастацтвазнаўцы і куратаркі з Беларусі, якія якраз з'яўляюцца рэзідэнткамі «Арсенала». Праект рэзідэнцыі прапануецца маладым незалежным куратарам з Беларусі і мастакам з Украіны. Ён накіраваны на «ўмацаванне матывацыі да павелічэння намаганняў для рэалізацыі сучасных мастацкіх выстаў у Беларусі і Украіне, і развіццё пачуцця бяспекі сярод куратараў праз упэўненасць ва ўласных умеласцях». Яго мэтай з'яўляецца таксама садзейнічанне Польшчы і польскаму мастацтву праз кантакт рэзідэнтаў з мастакамі, наладжванне адносін Польшча-Украіна-Беларусь і распаўсюджванне перадавога мастацкага і куратарскага вопыту праз працу рэзідэнтаў з установамі культуры. У рамках праекта Вольга Рыбчынская і Ганна Самарская — куратаркі з Мінска — адбываюць двухтыднёвую куратарскую рэзідэнцыю ў галерэі «Арсенал», у спалучэнні з азнаямленчымі паездкамі ў Нацыянальную галерэю мастацтваў «Захэнта», Музей сучаснага мастацтва ды «Крулікарню» ў Варшаве і Мастацкі музей у Лодзі. На рэзідэнцыю таксама былі запрошаны артысты з Украіны: Юлія Костарава і Юры Кручак, якія на працягу месяца свайго знаходжання будуць рэалізаваць праект «36 сцэнарыяў жыцця», які затым будзе прадстаўлены на выставе «Пазбаўленне». У ходзе сустрэчы «Нівы» з беларускімі куратаркамі Вольга Рыбчынская сказала:

— Гэта для нас было вялікім гонарам прыехаць сюды на рэзідэнцыю, асабліва напярэдадні такога вялікага і знакамітага праекта, якім з'яўляецца «Пазбаўленне». Пабыўка тут ёсць таксама магчымасцю для нас пабачыць, як рыхтуюцца такія буйныя праекты. Найбольш каштоўным з'яўляецца ўдзел у фарміраванні такога праекта: момант жывых зносін з мастакамі, а не праз інтэрнэт, якую стратэгію выбірае галерэя, як рэалізуе першапачатковую канцэпцыю. Тым больш, што дыскусія і іншыя суправаджальныя мерапрыемствы будуць мець працэсуальны характар, створаны ўвесь час. Каштоўныя таксама жывыя сувязі ў нас з іншымі куратарамі ў Беластоку, Варшаве або ў Лодзі, а таксама з гэтага пункту гледжання больш шырокі погляд на беларускае мастацтва, і магчымасць расказу з нашага пункту гледжання пра беларускае мастацтва.

Ганна Самарская:

— Беларускім куратарам не хапае міжнароднага вопыту і самой куратарскай школы ў Беларусі, дзе гэтая прафесія толькі яшчэ мацуецца, шукае сваіх рамак, кампетэнцый, у якіх мае функцыянаваць.

Пры нагодзе размовы з мінскімі куратаркамі аказалася, што ў асяроддзі мастакоў, куратараў, крытыкаў і мастацтвазнаўцаў адбываецца ў Беларусі дыскусія аб магчымасці стварэння ў гэтай краіне музея беларускага сучаснага мастацтва і аб тым, якія ў канчатковым рахунку мае ён выконваць функцыі. З адной з гэтых ініцыятыў выступілі мастакі Сяргей Кірушчанка і Сяргей Шабохін. Напачатак яны хочуць стварыць сайт з базай дадзеных, прысвечаны 35 мастакам і іх творам, створаным пасля 1991 г. Пасля мае адбыцца дыскусія аб пабудове аб'екта, які быў бы домам беларускага сучаснага мастацтва ў навааблмеркаванай мадэлі. Вольга Рыбчынская (абедзве куратаркі з'яўляюцца супрацоўніцамі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску):

— Ідэя заключаецца ў тым, каб працы не прападалі, не зніклі і каб наступала папулярызацыя сучаснага мастацтва, каб распрацаваць новыя стратэгіі працы мастакоў з куратарамі. Сучаснае мастацтва шырока ў Беларусі невядомае. Больш ведаюць пра яго ў Польшчы ці Германіі. Гэта пакуль спробы архівізацыі прыватных і дзяржаўных калекцый у Беларусі, але і пошукі нашай, новай тэрміналогіі ў адносінах да яе.

Ганна Самарская:

— У дзяржаўнай перспектыве таксама ёсць спробы працы ў абшары сучаснага мастацтва пасля 1990 года. Глядзіцца на беларускае сучаснае мастацтва з двух пунктаў гледжання: прыватнага і дзяржаўнага. Мы ўсе адчуваем, што ў гэтым ёсць нейкі інтарэс.

Неўзабаве ў Беларусі мае паказацца кніга (зборнік артыкулаў) мастацтвазнаўцаў Лены Прэнц і Алёны Блохавай, прысвечаная сучаснаму беларускаму мастацтву, пачынаючы з 1960-х гадоў да пачаткаў дваццаць першага стагоддзя, з ужо названымі перыядамі і прызнанымі творцамі гэтага часу.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

ISSN 0546-1960